## ЗАУВАЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ ДРУКУ

| Старонка | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 10 | 3 зверху | заўвага, і т. д. | заўвага і т. д. |
| 21 | 9 зверху | больш 40 р. | больш 80 р. |
| 21 | 10 зверху | у 2—3 разы больш | у $1\frac{1}{2}$ разы больш. |
| 23 | 25 зверху | ім лепшыя | ім яшчэ лепшыя |
| 24 | 5 знізу | Маркс том I | Маркс—Капітал, том I, |
| 35 | 13 знізу | біяграфіяй | біяграфіямі |
| 43 | 16 знізу | ў адначасовай | у адначасовай |

НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ІНСТЫТУТ
ШКОЛЬНАЙ ПЕДАГОГІКІ БССР

# КАНСУЛЬТАЦЫЯ НАСТАЎНІКА

## № 3






МЕНСК 1938

## ДА ЎВАГІ НАСТАЎНІКАЎ

Зборнік № 3 уключае адказы на пісьмовыя запытанні, паступіўшыя ў НДІ Школьнай Педагогікі ад настаўнікаў школ БССР.

Навукова-Даследчы Інстытут Школьнай Педагогікі праводзіць пісьмовую кансультацыю настаўнікаў пачатковай, няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школ па пытаннях комуністычнага выхавання ў школе, метадах выкладання паасобных школьных прадметаў, метадах навучання грамаце і пісьму.

Просім настаўнікаў прысылаць у Інстытут запытанні.

**Наш адрас: Менск, Універсітэцкі Гарадок, Галоўны корпус, Навукова-Даследчы Інстытут Школьнай Педагогікі.**

*ДЫРЭКЦЫЯ*

Рэдкалегія: А. Яворскі (рэдактар), І. Фрэйдман, М. Мерзон.

Паступіла ў вытворчасць 13/XII 1937 г. Падпісана да друку 8/I 1938 г. Фармат паперы 60×92 см. Друк. арк. 3½. Зак. 613. Галоўлітбел № 3521. Тыраж 8000 экз.

Друкарня Акадэміі навук.

## ЯК НА ЎРОКУ ВЕСЦІ БАРАЦЬБУ З РЭШТКАМІ ПЕДАЛАГІЧНЫХ СКАЖЭННЯЎ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА Л. К., СМІЛАВІЦКІ Р-Н)

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) у пастанове ад 4 ліпеня 1936 г. „Аб педалагічных скажэннях у сістэме Наркомасветы“ выкрывае так званую педалогію як рэакцыйную ілжэнавуку. ЦК ВКП(б) асуджае тэорыю і практыку так званай педалогіі, якая грунтуецца на антымарксісцкіх палажэннях; да іх адносіцца галоўны „закон“ сучаснай педалогіі—„закон“ „фаталістычнай абумоўленасці лёсу дзяцей біялагічнымі і соцыяльнымі фактарамі, уплывам спадчыннасці і нейкага нязменнага асяроддзя“ (пастанова ЦК ВКП(б) ад 4/VII-36 г.).

У гэтай гістарычнай пастанове з усёй яскравасцю выкрываюцца шкодныя, контррэвалюцыйныя „тэорыі“ так званай педалогіі, згодна якім вялікая колькасць здольных совецкіх дзяцей залічвалася ў „цяжкія“, „разумова-адсталыя“ і асуджалася на сістэматычнае адставанне ў навучанні, ператваралася ў „дэзарганізатараў“. Такія шкодніцкія палажэнні педолагаў былі накіраваны на прапаганду фашысцкіх тэорый, на адмаўленне марксісцкай навукі аб дзецях, на разбурэнне школы.

У пастанове ўказваецца, што педалагічныя скажэнні, вынікаўшыя з антыленінскай тэорыі адмірання школы, глыбока ўкараніліся ў школьную практыку.

„Толькі пагардай Наркомасветы да кіраўніцтва педагагічнай навукай і практыкай можна растлумачыць той факт, што антынавуковая і невуцкая тэорыя адмірання школы, асуджаная партыяй, прадаўжала да апошняга часу карыстацца прызнаннем у Наркомасветы, і яе адэпты ў выглядзе недавучыўшыхся педолагаў насаджаліся ва ўсё больш і больш шырокіх маштабах“ (пастанова ЦК ВКП(б) ад 4/VII 1936 г.).

Нават і сёння, калі ўжо прайшло больш года пасля гістарычнай пастановы ЦК, у практыцы школы яшчэ праяўляюцца рэшткі рэакцыйных педалагічных „тэорый“, якія з'яўляюцца адным з метадаў шкодніцтва ворагаў народа.

З гэтай прычыны недапушчальна палітычна-шкодная бяспечнасць, самазаспакоенасць некаторых настаўнікаў і дырэктароў школ, якія не бачаць праяўлення рэштак педалагічных скажэнняў, не вядуць з імі барацьбу і гэтым самым шкодзяць у справе навучання і выхавання, даюць магчымасць класаваму ворагу разбураць совецкую школу.

Вычарпаць усё пытанне ў кароткім адказе няма магчымасці. Мы спынімся толькі на паасобных праяўленнях рэштак шкодных педалагічных „тэорый" і ўкажам спосабы барацьбы з імі на прыкладзе наступных педагагічных пытанняў: 1) паспяховасць вучняў, 2) навучанне і выхаванне, 3) дысцыпліна, 4) вывучэнне дзяцей на ўроку, 5) метады навучання.

I. Рэшткі педалагічных скажэнняў у практыцы часта звязаны з няправільным, шкодным разуменнем і тлумачэннем непаспяховасці. Яны праяўляюцца ў тым, што непаспяховасць асобных вучняў настаўнік лічыць нармальнай з'явай і тлумачыць яе або дрэннымі „прыроджанымі здольнасцямі" дзяцей, або тым, што яны гультаі, або прычыну яе абмяжоўвае толькі неспрыяючымі дамашнімі ўмовамі; пры гэтым непаспяховасць па паказаных прычынах ён лічыць проста ракавы́м лёсам асобных дзяцей, а педагога—бездапаможным весці з непаспяховасцю барацьбу.

У якасці прыклада, які канкрэтызуе гэта шкоднае, класава варожае тлумачэнне прычын непаспяховасці, можна спаслацца на дрэнную практыку работы настаўніка матэматыкі Ц. Вучань 5 кл. Пятроўскі ў першую чвэрць 1937 г. не паспяваў па арыфметыцы. Настаўнік Ц. зусім няправільна ўстанаўляе прычыны яго непаспяховасці і ніякіх мер як педагог не прымае для ліквідацыі яе. „Вучань Пятроўскі,— паведамляе нам настаўнік,—не паспявае таму, што ён проста гультай і няздольны; усе яго браты дрэнна вучыліся і ні да чаго няздольны". Да ліку такіх „няздольных" настаўнік Ц. аднosіў 4-х вучняў. І калі мы запыталіся ў настаўніка, якія-ж меры ён прымае для таго, каб „адстаючыя" вучні паспявалі, ён адказаў: „Я нічога зрабіць з імі не магу".

Падобнае тлумачэнне непаспяховасці, адмаўленне барацьбы з ёю—гэта рэцыдыў педалагічных тэорый у практыцы школьнай работы. Мы павінны рашуча, да канца выкрываць такую шкодную контррэволюцыйную тэорыю і практыку. Паспяховасць у навучанні залежыць ад настаўніка, актыўнасці саміх дзяцей. Гэта практычна азначае, што сёння непаспяваючы вучань заўтра можа стаць паспяваючым, нават выдатнікам.

Як-жа весці барацьбу з непаспяховасцю, з другагодніцтвам, за высокую паспяховасць? На аснове абагульнення

багатага вопыта работы совецкага настаўніка можна раіць наступныя способы барацьбы з непаспяховасцю:

а) Настаўнік папярэджвае непаспяховасць правільным марксісцкім, навуковым ізлажэннем вучэбнага прадмета. Ён звяртае ўвагу не толькі на змест ізлагаемага матэрыялу, але адначасова жыва, захапляюча афармляе ўрок з тым, каб уздзейнічаць і на пачуцці дзяцей.

б) Важным сродкам папярэджання і ліквідацыі непаспяховасці з'яўляецца строгая сістэма, паслядоўнасць у праходжанні праграмнага матэрыялу. Гэта азначае, што настаўнік тлумачыць дзецям усе галоўныя законы ў іх адпаведнай навуковай паслядоўнасці; пры ізлажэнні ўсякае новае паняцце выводзіць пастулова, грунтуючыся на мінулых ведах; звязвае ўсё ізложанае ў адну стройную навуковую сістэму; ізлагае, пачынаючы з простага, зразумелага; паступова ўскладняе вучэбны матэрыял, даючы магчымасць вучню крытычна засвойваць. Вось прыклад работы настаўніцы свярдлоўскай школы К., якая сістэматычным, паслядоўным ізлажэннем дабілася высокай паспяховасці.

Настаўніца свярдлоўскай школы К. знаёміць вучняў III—IV кл. з геаграфічнай картай у такой паслядоўнасці. Яна пачынае работу азнаямленнем з месцазнаходжаннем асобных прадметаў; высвятляюцца паняцці—„злева, справа, ззаду, спераду"; затым яна знаёміць дзяцей пры дапамозе нагляданняў за сонцам з напрамкамі—„поўнач, поўдзень, захад, усход". Затым даецца дзецям разуменне аб тым, што можна вызначыць месцазнаходжанне кожнага прадмета па напрамку да данага пункта. Пасля высвятлення пытання аб напрамку настаўніца прыводзіць дзяцей да разумення неабходнасці ўстанаўляць адлегласць паміж прадметамі. Гэта дасягаецца на знаёмых, блізкіх дзецям прыкладах.

Такім чынам дзеці засвоілі напрамак і адлегласць, як неабходны сродак для вызначэння палажэння прадмета. У сувязі з гэтым К. знаёміць дзяцей з ізабражэннем напрамку і адлегласці на чарцяжы і так падыходзіць да маштаба. Гэта пытанне высвятляецца на канкрэтных школьных прыкладах.

в) Сістэматычнае паўтарэнне і замацаванне ведаў—таксама неабходны сродак барацьбы з непаспяховасцю. Кожны настаўнік павінен ведаць элементарнае педагагічнае правіла аб тым, што вучню трэба не толькі разумець, але і цвёрда ведаць: без цвёрда засвоенага аднаго палажэння нельга паспяхова вывучаць другое. Важную роль у гэтым адыгрывае паўтарэнне. Усім

вядома, што „тэарэтыкі“ антыленінскай тэорыі адмірання школы, а таксама і педолагі адмаўлялі паўтарэнне і свядомыя практыкаванні.

Для дасягнення станоўчых вынікаў пры паўтарэнні настаўнік павінен памятаць некалькі дыдактычных правіл:

— Паўтараць сістэматычна. Настаўнік пры гэтым скарыстоўвае амаль кожны ўрок, на якім ён паўтарае ранейшы матэрыял з мэтаю яго замацавання і ўстанаўлення сувязі з уноўізлагаемым. На ўроку настаўнік паўтарае і ўноўізложаны матэрыял. Пасля вывучэння асобнай важнай тэмы або раздзела настаўнік праводзіць спецыяльны ўрок паўтарэння.

— Паўтараць больш часта найбольш цяжкі, а таксама асноўны матэрыял.

— Паўтараць і замацоўваць веды, прымяняючы featнастайныя педагагічныя прыёмы з тым, каб усебакова актывізаваць дзяцей, захоўваць на працягу ўсяго навучання інтарэс, як неабходны сродак эфектыўнага засваення. Вось прыклад таго, як настаўніца свярдлоўскай СШ пры паўтарэнні рускага правапіса галосных пасля шыпячых („жи“, „ши“) прымяняе featнастайныя прыёмы: работа пачынаецца з наглядання па табліцы і тлумачэння правіла; затым ідзе спісванне з падкрэсліваннем слоў з „жи“, „ши“, работа з дэфармаваным тэкстам і ўпісванне ў сказы прапушчаных слоў з „жи і „ши“; пасля гэтага—творчы, а затым кантрольны дыктант.

— Паўтараць толькі тое, што правільна зразумета вучнямі. У адваротным выпадку трэба ім добра растлумачыць, пераканацца ў правільным разуменні матэрыялу, а затым паўтараць.

г) Адным з важных сродкаў у барацьбе за паспяховасць з'яўляецца індывідуальны падыход да вучняў. Кожны настаўнік у процілегласць „тэорыям“ педолагаў абавязан у класе бачыць не безлічную масу, не тыпы або групы дзяцей, а кожнага вучня з яго асаблівасцямі і схільнасцямі, поспехамі і цяжкасцямі. З гэтага вынікае, што настаўнік павінен ведаць поспехі кожнага вучня і своечасова дапамагаць тым вучням, якія не паспяваюць.

Што канкрэтна можа зрабіць настаўнік на ўроку? Ён заўсёды трымае ў полі зроку вучняў, якія не паспяваюць (г. зн. тых, якія па розных прычынах не засвоілі часткі праграмы), пры праверцы ведаў больш часта іх выклікае, у час выканання класных практыкаванняў дапамагае перамагаць затрудненні, дае ім дадатковыя тлумачэнні і больш

дэтальныя ўказанні ў час адказаў; дапамагае вучням, якія не засвоілі часткі праграмы, у пазашкольны час.

Побач з указаным вышэй, настаўнік, падыходзячы індывідуальна да кожнага вучня, стымулюе яго на паднясцце якасці сваіх ведаў. Для гэтага ўжываюцца розныя спосабы: настаўнік заахвочвае поспехі асобных вучняў, фіксуе ўвагу астатніх на дасягненнях непаспяваўшага вучня, выхоўвае ў яго ўпэўненасць у свае сілы для перамагання затрудненняў. Настаўнік вядзе барацьбу з дрэннымі адносінамі да „непаспяваючых" вучняў, імкнецца выклікаць у іх зацікаўленасць вучэбнымі заняткамі, уцягвае ў актыўную работу класа.

д) У мэтах знішчэння непаспяховасці настаўнік абавязан своечасова вывучаць затрудненні вучняў і аказваць ім дапамогу. Ён павінен памятаць, што вучань, які не перамог затрудненняў, а значыць і не засвоіў з прычыны гэтага часткі праграмы, можа стаць сапраўды непаспяваючым. Для гэтага настаўнік вывучае затрудненні асобных вучняў, асабліва „непаспяваючых", і пасля гэтага дапамагае іх перамагчы. Так, напрыклад, настаўніца мовы менскай СШ вывучае характар памылак вучня Б. Знаходзячы, што вучань Б. не разумее, калі пішацца „е" і калі „я", дапамагае яму разабрацца ў гэтым. Настаўніца геаграфіі 2-ой менскай СШ, вывучаючы затрудненні вучня V кл. К., устанаўляе, што ён не разумее прычыны ўтварэння вятроў. Яна пераконваецца, што гэты вучань слаба засвоіў ціск атмасферы і таму не разумее далейшых раздзелаў праграмы. У даным выпадку настаўніца рознымі шляхамі дабілася таго, каб вучань зразумеў ціск атмасферы, і „непаспяваючы" вучань стаў добра вучыцца па геаграфіі.

е) Важным момантам у справе ліквідацыі і папярэджання непаспяховасці з'яўляецца навучанне дзяцей таму, як трэба самастойна працаваць. У мэтах дасягнення гэтага настаўнік падбірае класныя і дамашнія работы так, каб для іх выканання патрабавалася самастойная работа, аднак, без перагрузкі дзяцей; дабіваецца сапраўды самастойнага выканання ўсіх вучэбных заданняў, на ўроку вядзе барацьбу з падказамі, шпаргалкамі і т. д.

У гэтых адносінах вялікую роль адыгрывае тое, як настаўнік дае дамашняе заданне. Трэба дэтальна растлумачваць заданне не толькі з боку зместу, але і метадаў, прыёмаў яго выканання дома. Настаўнік павінен пераканацца ў тым, як заданне зразумелі ўсе вучні, у тым ліку і „непаспяваю-

чыя". З гэтай мэтай ён пасля тлумачэння прапануе вучням коратка паўтарыць змест прадстаячай работы, парадак яе выканання і т. д.

ж) Асабліваезначэнне ў барацьбе за паспяховасць мае даскаяалая сістэматычная праверка дамашніх і класных работ. Усякае паслабленне праверкі часта вядзе да непаспяховасці. Настаўнік павінен прытрымлівацца правіла: кожная работа павінна быць праверана; правяраючы работы вучняў, слаба засвоіўшых вучэбны матэрыял, як можна больш дэтальна ўказваць ім шляхі выпраўлення памылак, даваць падрабязныя дадатковыя тлумачэнні, прапаноўваць выканаць практыкаванні ў класе і дома.

Вось некаторыя сродкі, пры дапамозе якіх настаўнік можа на ўроку весці барацьбу з непаспяховасцю і тым самым знішчаць рэшткі педалагічных скажэнняў у практыцы выкладання. Адсюль вы бачыце, што непаспяховасць—гэта не ракавы лёс некаторых дзяцей, не абумоўленасць гэтага лёсу біялагічнымі і сацыяльнымі фактарамі, а вынік дрэннай работы настаўніка. Папярэдзіць і ліквідаваць непаспяховасць можна і неабходна. Гэта пытанне рашаецца педагагічным майстэрствам выкладчыка і жаданнем, інтарэсам, актыўнасцю самога вучня.

II. Рэшткі педалагічных скажэнняў пры выкладанні на ўроку могуць праяўляцца ў разрыве навучання і выхавання: у ігнараванні выхавання пры выкладанні і ў тым, што настаўнік губляе кіруючую роль у педпрацэсе. Усім вядома, што гора-тэарэтыкі так званай педалогіі імкнуліся ліквідаваць навуку педагогіку, якая імі „была пагарджальна абвешчана „эмпірыкай" і навуковападобнай дысцыплінай, а не склаўшаяся яшчэ, віхляючая, не вызначыўшая свайго прадмета і метада і поўная шкодных, антымарксісцкіх тэндэнцый так званая педалогія была абвешчана універсальнай навукай, закліканай накіроўваць усе бакі вучэбна-выхаваўчай работы школы, у тым ліку педагогіку і педагогаў" (пастанова ЦК ад 4/VII-36 г.). У выніку панавання педалогіі ў сценах некаторых школ педагог зрабіўся „механічным перадатчыкам" праграмнага матэрыялу; выхаваўчая работа была манапалізавана так званымі педолагамі ў тых школах, дзе яны меліся, а ва ўсіх астатніх школах яна з круга абавязкаў настаўніка проста выпадала.

ЦК ВКП(б) у сваёй пастанове ад 4/VII-36 г. патрабуе аднаўлення ў правах педагога. Гэта ў даным выпадку азначае, што педагог, настаўнік павінен стаць поўнацэнным кіраўніком педпрацэса, ён павінен не толькі навучаць, але і выхоўваць дзяцей у камуністычным духу.

Аднак яшчэ і зараз некаторыя настаўнікі абмяжоўваюць сваю роль на ўроку тым, што толькі фармальна перадаюць вучэбны матэрыял, але не выхоўваюць дзяцей. З такімі рэшткамі педалагічных скажэнняў трэба весці бязлітасную барацьбу. Можна рэкамендаваць для гэтага скарыстоўваць наступныя сродкі:

а) Ізлагаючы вучэбны прадмет, настаўнік павінен даваць веды і развіваць у дзяцей марксісцкі светапогляд, выхоўваць іх у духу савецкага патрыятызма, выхоўваць з іх калектывістаў, актыўных будаўнікоў соцыялістычнага грамадства, непрымірымых у барацьбе з трацкісцка-бухарынскімі бандытамі і ўсімі класавымі ворагамі.

Напрыклад, ізлагаючы дзецям пытанне аб форме зямлі, настаўнік геаграфіі не толькі дае агульна-навуковыя веды аб шарападобнай форме зямлі, але ў працэсе ізлажэння праводзіць і выхаваўчую работу: ён выкрывае шкодныя рэлігійныя тлумачэнні аб форме зямлі і яе паходжанні, выхоўвае ў дзяцей нянавісць да рэлігіі і яе прыслужнікаў, якія люта катавалі вучоных (Джардано Бруно, Каперніка), узбройвае іх на актыўную барацьбу з рэлігіяй. Паралельна гэтаму настаўнік напамінае дзецям аб той пашане, якой карыстаецца навука і навуковыя дзеячы ў СССР, проціпастаўляючы гэта варварскім адносінам да яе ў фашысцкіх краінах. Такім чынам, настаўнік, ізлагаючы вучэбны матэрыял, дае дзецям веды, развівае матэрыялістычны светапогляд, выхоўвае іх савецкімі патрыётамі.

Ізлагаючы дзецям гісторыю, настаўнік не толькі асвятляе асобныя факты класавай барацьбы, але дае ім сістэму ведаў і разуменне марксісцкіх законаў развіцця грамадства. Ён прыводзіць дзяцей да разумення таго, што класавая барацьба пролетарыята вядзе да дыктатуры пролетарыята, да савецкай улады, да пабудовы поўнага комуністычнага грамадства. Паказваючы магутнасць нашай соцыялістычнай радзімы, кіруемай комуністычнай партыяй і геніяльным правадыром таварышом Сталіным, ён выхоўвае дзяцей у духу савецкага патрыятызма.

На канкрэтным вучэбным матэрыяле, звязваючы яго з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва, настаўнік выхоўвае дзяцей у духу ваяўнічага атэізма, інтэрнацыялізма, калектывізма, узбуджае ў іх працоўны савецкі энтузіязм, адвагу, бадзёрасць, радасць за сваё радаснае, шчаслівае жыццё.

Так настаўнік выхоўвае дзяцей, ізлагаючы свой прадмет марксісцкі вытрымана і палітычна завострана.

б) Настаўнік на ўроку выхоўвае ў дзяцей свядомую дысцыпліну. Ён дае магчымасць вучням асвядоміць сутнасць і значэнне дысцыпліны, а таксама прымяняе і канкрэтныя

педагагічныя метады для яе выхавання: дае тлумачэнні аб сутнасці і ролі дысцыпліны, прымяняе і такія сродкі, як заўвага, і т. д.

в) Настаўнік на ўроку выхоўвае ў дзяцей культурныя навыкі, навыкі ўмелай арганізацыі работы, рацыянальнага скарыстання часу і т. д. У гэтых адносінах вялікую роль адыгрывае арганізацыя работы ў класе, метады навучання, якімі карыстаецца настаўнік.

г) Выхаваўчая работа настаўніка на ўроку паглыбляецца тым, што ён у працэсе ізлажэння вучэбнага матэрыялу, вывучаючы дзяцей і індывідуальна падыходзячы да іх, развівае мышленне, памяць, увагу, інтарэс, эмоцыі, у той час як педолагі гэтыя функцыі толькі „вывучалі“.

III. Рэшткі педалагічных скажэнняў пры выкладанні могуць праяўляцца і ў тым, што настаўнік абсалютна не ведае і не вывучае асаблівасцей дзяцей, і ў залежнасці ад гэтага ўжывае стандартны агульны падыход да іх.

На практыцы часта настаўнік не лічыць сваім абавязкам ведаць асаблівасці памяці, увагі, эмоцый, інтарэсаў дзяцей і не цікавіцца фізічным іх станам. Некампетэнтнасць настаўніка ў гэтым і няправільная арганізацыя навучання часта вядзе да непаспяховасці і недысцыплінаванасці асобных вучняў.

Настаўнік абавязан весці барацьбу на ўроку і з гэтымі рэшткамі педалагічных скажэнняў. Напрыклад, настаўнік матэматыкі К. вывучае інтарэсы дзяцей і развівае іх у напрамку, адпавядаючым задачам комуністычнага выхавання. Ён заўважае, што вучань Л. вельмі любіць маляваць на ўроку розныя схемы, лятаючыя апараты. Настаўнік К. гэты інтарэс вучня Л. вельмі ўмела пераключае на інтарэс да совецкай авіяцыі, да фізікі, матэматыкі і геаграфіі. І вучань Л. замест заняткаў на ўроку невучэбнымі справамі становіцца актыўным удзельнікам авіямадэльнага гуртка, і, нарэшце, выказвае вялікае жаданне пасля сканчэння сярэдняй школы стаць совецкім пілотам.

Настаўнік далей так тлумачыць вучэбны матэрыял, каб дзеці свядома, крытычна яго ўспрыймалі, добра запаміналі і гэтым самым развівалі мышленне і памяць. Таксама на ўроку настаўнік вывучае ступень запамінання дзецьмі і скарыстоўвае атрыманы матэрыял для развіцця мышлення і памяці, а таксама і правільнай арганізацыі педпрацэса. Напрыклад, настаўнік гісторыі пры паўтарэнні на ўроку ўжо ізложанага матэрыялу звяртае ўвагу на тое, што некаторыя вучні факты ведаюць, але абагуліць іх не могуць.

У мэтах развіцця мышлення, ізлагаючы канкрэтныя факты, ён больш часта патрабуе ад гэтых вучняў самастойных вывадаў, акрамя таго настаўнік на некалькіх уроках паказвае, як трэба іх рабіць і т. д.

Настаўнік таксама вывучае волю дзяцей. Ён сочыць за тым, як кожны з вучняў выконвае сваё слова, наколькі даводзіць усякую справу да канца Багатым матэрыялам у гэтых адносінах з'яўляецца прыклад нашых совецкіх герояў. Мае значэнне таксама перамаганне вучнямі цяжкасцей у вучобе, акуратнасць выканання дамашніх і класных работ. Тут часта дапамагае правільная дазіроўка вучэбных заданняў. Як правіла, вучэбныя заданні не павінны быць вельмі лёгкімі, наадварот, яны павінны ўключаць адпаведныя цяжкасці, якія неабходна перамагчы. Аднак непасільныя заданні таксама шкодны. Важным з'яўляецца аб'ясніць вучням мэту ўсякай работы і шляхі для яе выканання.

Фізічны стан дзяцей настаўнік вывучае, скарыстоўваючы матэрыялы школьнага ўрача.

Вам вядома, што гора-педолагі „ўсебаковае вывучэнне" дзяцей праводзілі, прымяняючы розныя антымарксісцкія, ненавуковыя спосабы: анкеты, тэсты, розныя апараты і т. д. Гэтыя метады з'яўляюцца палітычна шкоднымі і не навуковымі, таму настаўнік ні пад якім выглядам не павінен іх ужываць. Вывучэнне-ж дзяцей у працэсе навучання, якое рэкамендуецца намі, забяспечыць поспехі ў навучанні.

IV. Тлумачэнне недысцыплінаванасці вучняў выключна асаблівасцямі іх прыроды або асяроддзем; залічэнне масы дзяцей у разрад „трудных", „дэзарганізатараў" і шаблонны падыход да выпраўлення паводзін; адмаўленне ад барацьбы з недысцыплінаванасцю, як з'явай быццам законамернай і невыправімай—усё гэта рэшткі педалагічных скажэнняў.

Некалькі прыкладаў з практыкі школы. На ўроках нямецкай мовы у адной з барысаўскіх НСШ вучні К., С., Д., і М. сістэматычна займаюцца канструіраваннем папяровых голубаў і іх „выпрабаваннем". Палёты гэтых голубаў адцягваюць увагу ўсіх вучняў, і ўвесь клас становіцца „недысцыплінаваным". Настаўніца гэтых вучняў спачатку лічыць проста недысцыплінаванымі, але, убачыўшы, што яны на ўроку нават пачынаюць станавіцца на парту і пускаць голубаў, называе іх „ненармальнымі". Лічачы іх „ненармальнымі" і „непаправімымі", яна перасаджвае гэтых вучняў на адну парту і ніякіх мер супроць іх недысцыплінаванасці не прымае.

На ўроках некаторыя вучні сістэматычна праяўляюць недысцыплінаваныя ўчынкі. Настаўніца сваё ўздзейнічанне абмяжоўвае толькі трыма словамі: „Скажу класнаму кіраўніку“, сама-ж ніякіх мер не прымае, лічачы гэта не сваім абавязкам. Класны кіраўнік няправільна залічвае гэтых дзяцей у разрад „непаправімых“, „безнадзейных“ і таксама ніякіх мер не прымае.

Мы супроць такіх шкодных педалагічных установак аб дысцыпліне. Дысцыплінаванасць вучняў залежыць ад якасці выхавання і выкладання, метадаў работы настаўніка, ад агульнай арганізацыі работы ў школе, ад настаўніка. Адсюль кожны недысцыплінаваны вучань можа і павінен стаць дысцыплінаваным—усё ў руках школы, настаўніка. Зразумела, некаторую роль у выхаванні дысцыпліны адыгрывае і сям'я.

Настаўнік павінен не пасіўна назіраць за недысцыплінаванасцю, а весці адпаведную работу па барацьбе з ёю. Пры гэтым ён павінен скарыстоўваць розныя сродкі: добра ізлагаць свой прадмет, умець зацікавіць, актывізаваць вучняў, індывідуальна падыходзячы да кожнага з іх; уздзейнічаць на вучняў шляхам арганізацыі грамадскай думкі вакол пытанняў дысцыпліны, арганізацыі соцыялістычнага спаборніцтва; побач з гэтым даваць заўвагі, папярэджані і ў асобных выпадках даводзіць справу да выключэння.

V. Рэшткі педалагічных скажэнняў могуць праяўляцца ў няправільных метадах навучання: правядзенне заняткаў аднастайным, стандартным метадам без уліку зместа вучэбнага матэрыялу і спецыфікі ўзросту дзяцей; адсутнасць індывідуальнага падыхода да вучняў пры выкладанні і іх пасіўнасць; такая арганізацыя заняткаў, пры якой губляецца кіруючая роль настаўніка; механічны стандартны падыход пры ацэнцы ведаў вучняў, устанаўленне стандартаў, вышэй якіх вучань быццам не можа ведаць,—усё гэта шкодная педалагічная практыка.

У мэтах барацьбы за якасць навучання і выхавання трэба кіравацца гістарычнай пастановай ЦК ВКП(б) ад 5/IX-31 г., дзе сказана, што настаўнік абавязан прымяняць differentiating розныя... 

Пытанне аб праяўленні рэштак педалагічных скажэнняў у метадах выкладання мы на гэты раз падрабязна не разглядаем за кароткасцю даваемага адказу. У бліжэйшы час мы пакажам падрабязна на канкрэтных прыкладах спосабы барацьбы са шкоднымі педалагічнымі рэшткамі ў гэтым пытанні.

Мы коратка ўказалі толькі на некалькі магчымых варыянтаў праяўлення на ўроку рэштак педалагічных скажэнняў і на спосабы барацьбы з імі.

Задача ўсякага свядомага совецкага настаўніка заключаецца ў тым, каб рашуча выкарчоўваць шкодніцкія педалагічныя рэцыдывы, выкрываючы ўсіх класавых ворагаў, свядома праводзячых шкодніцтва ў некаторых школах. Трэба памятаць, што рэшткі педалагічных скажэнняў—гэта рэзультат недабітай яшчэ да канца шкоднай антыленінскай тэорыі адмірання школы. І таму канчатковае выкарчоўванне педалагічных рэштак—гэта барацьба за сапраўдную навуку ў школе, за аднаўленне ў правах педагогікі і педагога, як кіраўніка і арганізатара педагагічнага працэса, за сапраўднае комуністычнае выхаванне нашых дзяцей.

*Старшы навуковы работнік НДІ школьнай педагогікі А. Яворскі*

---

# МЕТАДЫЧНАЯ РАСПРАЦОЎКА ЎРОКА ПА КАНСТЫТУЦЫІ СССР
## на тэму:
## „ПРАВА НА АДУКАЦЫЮ“

### I. Метадычныя заўвагі да правядзення ўрока

1. Вывучаючы Сталінскую Канстытуцыю СССР, вучні павінны ўсвядоміць, што яна з'яўляецца геніяльным ажыццяўленнем ідэй і імкненняў лепшых розумаў чалавецтва, рэзультатам гераічнай барацьбы працоўных. Вучні павінны яшчэ больш усвядоміць грандыёзнасць перамог соцыялізма, запісаных у Сталінскай Канстытуцыі. На аснове яе вывучэння ў вучняў павінна ўзрастаць пачуццё гордасці за сваю соцыялістычную радзіму, пачуццё совецкага патрыятызма.

Кожны ўрок па Канстытуцыі павінен быць так пабудован, каб ён выклікаў у вучняў палкую любоў да працоўных, да сваёй соцыялістычнай радзімы і гарачую нянавісць да яе ворагаў, да эксплаататараў.

2. На ўроку „Права на адукацыю“ настаўнік ставіць сваёй мэтай растлумачыць вучням чым абумоўлена права на адукацыю ў СССР, у чым сутнасць гэтага права і чым яно забяспечваецца. Настаўнік павінен дабіцца моцнага засваення вучнямі, чоткага разумення імі сутнасці і значэння 121-га артыкула Вялікай Сталінскай Канстытуцыі.

3. Выхаваўчае значэнне гэтага ўрока вялікае. Ён, як і ўсе іншыя ўрокі па Канстытуцыі, выхоўвае любоў вучняў да нашай радзімы, да яе правадыра, настаўніка і лепшага друга працоўных усяго света таварыша Сталіна. Урок мае вялікае значэнне ў справе інтэрнацыянальнага выхавання. Палітычна завостранае, яркае, жывое правядзенне ўрока вельмі ўзмацняе пачуццё совецкага патрыятызма, пачуццё гордасці за сваю радзіму, за яе поспехі ў галіне культур-

нага будаўніцтва, за бацькоўскія клопаты аб дзецях нашай радзімы. Яркі, эмацыянальны расказ настаўніка, жывыя прыклады, наглядныя карціны, скарыстанне ўрыўкаў з мастацкіх твораў, добра прадуманы і падабраны фактычны матэрыял—усё гэта павінна быць накіравана на тое, каб давесці велічныя словы Канстытуцыі аб праве на адукацыю да свядомасці і пачуцця нашых школьнікаў, на тое, каб дзеці глыбока адчулі благароднасць пралетарскага гуманізма, сталінскіх клопатаў аб чалавеку, сілу і веліч нашай радзімы, яе перадавую і гістарычную роль.

Дзеці павінны зразумець, што 121-ы артыкул Сталінскай Канстытуцыі, як і ўся Канстытуцыя ў цэлым, з'яўляецца абвінаваўчым актам супроць фашызма, супроць фашысцкага варварства ў галіне культуры. Дзеці павінны зразумець, што права на адукацыю ў СССР здабыта і заваёвана ў рэзультаце працяглай і ўпартай барацьбы за перамогу і таржаство сацыялістычнага ладу, барацьбы супроць памешчыкаў і капіталістаў, супроць іншакраінных інтэрвентаў, супроць правых рэстаўратараў капіталізма, супроць трацкісцка-бухарынскай банды шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў.

4. Пры правядзенні данага ўрока настаўнік павінен карыстацца рознастайнымі метадамі і метадычнымі прыёмамі, а іменна: а) кароткай гутаркай у пачатку ўрока ў мэтах паўтарэння папярэдняга матэрыялу; б) кароткай гутаркай у канцы ўрока ў мэтах замацавання вучэбнага матэрыялу; в) жывым і яркім расказам; г) ілюстраваннем расказа адпаведнымі табліцамі, дыяграмамі, картаграмамі, фотаздымкамі і карцінамі; д) выразным чытаннем асобных урыўкаў з мастацкай літаратуры. Вельмі важным на даным уроку з'яўляецца ўмелае processпастаўленне справы народнай асветы ў СССР пастаноўцы народнай асветы ў царскай Расіі і ў сучасных буржуазных краінах. Гэтае проціпастаўленне павінна пераканаўча паказаць вучням, што ў краіне перамогшага сацыялізма ідзе безупынны рост нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зместу культуры, у той час як у буржуазных краінах, у краінах фашызма мы маем няўхільнае загніванне і разбурэнне культуры.

Рэкамендуем наступны план урока:

1. Арганізацыя класа.

2. Паўтарэнне матэрыялу папярэдняга ўрока. Настаўнік ставіць перад вучнямі наступныя пытанні:

а) У чым выражаецца права на працу і чым яно забяспечваецца?

б) Што сказана ў Канстытуцыі аб праве на адпачынак? Чым гэтае права забяспечваецца?

в) Што сказана ў Канстытуцыі аб матэрыяльнай забяспечанасці ў старасці?

3. Фармуліроўка тэмы ўрока і яго значэнне.

4. Ізлажэнне новага вучэбнага матэрыялу.

а) Ізлажэнне сутнасці і значэння 121-га артыкула Сталінскай Канстытуцыі.

б) Стан народнай асветы ў царскай Расіі.

в) Стан народнай асветы ў буржуазных краінах.

г) Каласальныя дасягненні ў галіне народнай асветы ў СССР за годы социялістычнай рэвалюцыі.

д) Фармуліроўка вывада аб тым, што права на адукацыю заваёвана і здабыта ў рэзультаце працяглай і ўпартай барацьбы працоўных СССР пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна за перамогу социялізма, што яно абумоўлена пабудовай социялізма ў нашай краіне і што 121-ы артыкул Сталінскай Канстытуцыі аб праве на адукацыю абавязвае ўсіх вучняў вучыцца на добра і выдатна.

5. Замацаванне ізложанага матэрыялу. Для замацавання ізложанага настаўнік ставіць перад вучнямі наступныя пытанні:

а) Аб чым гаворыць 121-ы артыкул Сталінскай Канстытуцыі?

б) Чым абумоўлена і забяспечваецца права на адукацыю ў СССР?

в) Якія дасягненні ў справе адукацыі ў СССР?

г) Стан народнай асветы ў краінах капіталізма.

6. Заданне на дом (1—3 мінуты).

а) Засвоіць змест 121-га артыкула Сталінскай Канстытуцыі і ўмець расказаць яго вусна.

б) Пагутарыць з бацькамі, як яны вучыліся ў старой школе.

Ніжэй прыводзім канкрэтны матэрыял, які настаўнік можа скарыстаць пры падрыхтоўцы да правядзення ўрока. Вучням патрэбна ізлагаць не ўвесь матэрыял, а толькі асноўны.

## II. Матэрыял настаўніку для правядзення ўрока

Урок пачынаецца з кароткага паўтарэння папярэдняга ўрока—права на працу, права на адпачынак і на матэрыяльнае забяспечанне ў старасці.

Затым настаўнік гаворыць:

— Сёння мы з вамі павінны вывучыць права, якім па Канстытуцыі карыстаюцца грамадзяне СССР,—права на адукацыю.

Настаўнік зачытвае 121-ы артыкул Сталінскай Канстытуцыі, растлумачвае змест гэтага артыкула.

— Права на адукацыю ў СССР абумоўлена дыктатурай пралетарыята, соцыялістычным ладам нашага грамадства. Соцыялізм у нашай краіне перамог канчаткова і беспаваротна. Мы цвёрда ідзем да комунізма. Перад намі задача—у бліжэйшыя годы перагнаць у тэхніка-эканамічных адносінах усе самыя перадавыя капіталістычныя краіны. Мы павінны аўладаць усёй навукай, усімі дасягненнямі сучаснай тэхнікі. Мы павінны аўладаць крытычна ўсімі багаццямі культуры, якія стварыла чалавецтва.

Тав. Сталін вучыць нас, што „рабочы клас не можа стаць сапраўдным гаспадаром краіны, калі ён не здолее стварыць сваёй уласнай інтэлігенцыі, калі ён не аўладае навукай і не здолее кіраваць гаспадаркай на аснове навукі“.

Права на адукацыю ў СССР абумоўлена сталінскімі клопатамі аб чалавеку. „З усіх каштоўных капіталаў, маюччыхся ў свеце,—гаворыць тав. Сталін,—самым каштоўным і самым рашаючым капіталам з'яўляюцца людзі, кадры“. І не было яшчэ ў гісторыі чалавецтва такога ўрада, такой партыі, якая-б так клапацілася аб людзях, аб іх росце, аб іх дабрабыце, як клапоціцца наш совецкі ўрад, наша комуністычная партыя. Перамогі соцыялізма забяспечылі ў нашай краіне самае шырокае развіццё ўсіх чалавечых сіл і здольнасцей. Наша партыя і ўрад клапоцяцца аб усебаковым развіцці чалавека, аб яго разумовым, маральным, фізічным і эстэтычным развіцці.

Права на адукацыю ў СССР абумоўлена каласальна вырасшым узроўнем культуры і матэрыяльным дабрабытам працоўных.

Наша права на адукацыю забяспечваецца, па-першае, усеагульным і абавязковым пачатковым навучаннем, ажыццёўленым па ўсяму Саюзу Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. У гарадах, рабочых пасёлках ды і ў цэлым радзе сельскіх мясцовасцей уведзена ўсеагульная і абавязковая няпоўная сярэдняя адукацыя. Краіна ідзе да ажыццяўлення ўсеагульнай абавязковай сярэдняй адукацыі.

Ужо цяпер у пачатковых, няпоўных сярэдніх і сярэдніх школах СССР навучаецца больш 30-ці мільёнаў вучняў, у той час як у царскай Расіі навучалася дзяцей у 4—5 разоў менш. Абсалютная большасць нашых вучняў—дзеці працоўных нашай краіны.

Для нашых дзяцей пабудавана вельмі многа новых цудоўных школ. За 20 год совецкай улады пабудавана больш школ, чым рускім самадзяржаўем за 200 год.

Бесперапынна расце армія совецкіх настаўнікаў, якая



ўжо зараз дасягае больш 900 тысяч чалавек. Гэта, прыкладна, перавышае ў 10 разоў колькасць настаўнікаў у царскай Расіі (тады іх было каля 90 тысяч).

Наша права на адукацыю забяспечваецца, па-другое, бясплатным навучаннем ва ўсіх тыпах школ СССР, выплатай у вышэйшай школе, тэхнікумах, педагагічных вучылішчах і ў іншых падобных навучальных установах 80% студэнтаў дзяржаўнай стыпендыі. У капіталістычных-жа краінах няўхільна расце плата за навучанне і дасягае такіх размераў, калі яна становіцца даступнай толькі для буйнай буржуазіі, дваран і памешчыкаў, г. зн. адукацыя ў капіталістычных краінах даступна толькі для заможных класаў. Што-ж датычыць народных мас, то буржуазія дае ім толькі крохі адукацыі. Расходы на школы для працоўных ва ўсіх капіталістычных краінах—мізэрныя. Школа мае часта вельмі ўбогі выгляд. Ва ўсіх школах, нават у пачатковых, навучанне платнае. Буржуазія вымагае ў народа сродкі на адукацыю і ператварае адукацыю ў зброю духоўнага заняволення працоўных, у сродак утрымання свайго панавання над імі, атручвае свядомасць дзяцей рэлігійнай і нацыяналістычнай атрутай.

Права на адукацыю ў СССР забяспечваецца навучаннем на роднай мове. На 83-х мовах вучацца савецкія дзеці. Гэта значыць, што дзеці самых забітых і прыгнечаных у царскай Расіі нацыянальнасцей атрымалі рэальную магчымасць вучыцца.

У Туркменістане, Узбекістане і ў інш. нацыянальных рэспубліках Сярэдняй Азіі амаль не было пісьменнага насельніцтва. Зараз у рэспубліках Сярэдняй Азіі больш 80% насельніцтва—пісьменныя.

Настаўнік падае табліцу, паказваючую, у колькі разоў павялічылася колькасць вучняў у нацыянальных рэспубліках СССР у параўнанні з дарэволюцыйным часам (1914 годам).

| Назва нацыянальнай рэспублікі | У колькі разоў павялічылася колькасць вучняў у параўнанні з 1914 годам |
|---|---|
| Кіргізская ССР . . . . . | 172 |
| БССР . . . . . . . . | 100 |
| Армянская ССР . . . . . | 68 |
| Узбекская ССР . . . . . | 53 |
| Туркменская ССР . . . . | 37 |
| Азербайджанская ССР . . . | 35 |

Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка комуністычнай партыі і совецкай улады забяспечыла магчымасць атрымаць адукацыю на роднай мове ўсім дзецям нашай вялікай шматнацыянальнай краіны. (Усе лічбовыя даныя, або, па крайняй меры, большасць з іх вельмі добра было-б падаць у выглядзе яркіх дыяграм і картаграм.)

Права на адукацыю ў СССР забяспечваецца масавым бясплатным вытворчым навучаннем. На фабрыках, заводах, на транспарце, у калгасах, соўгасах, машына-трактарных станцыях арганізавана масавае бясплатнае вытворчае навучанне. Гэта дае магчымасць мільёнам працоўным няўхільна павышаць сваю кваліфікацыю, паспяхова авалодваць навейшай тэхнікай, атрымліваць сярэднюю і нават вышэйшую адукацыю без адрыва ад вытворчасці. Агульна-адукацыйнымі школамі дарослых ахоплена каля 9-ці мільёнаў чалавек. На розных спецыяльных курсах навучаецца 6,3 мільёна рабочых і калгаснікаў. Нічога падобнага ніколі не ведала старая царская Расія, нічога падобнага не можа быць у краінах капіталізма, дзе рабочы служыць для капіталіста прыдаткам да машыны.

Вывад: а) Права на адукацыю, запісанае ў Сталінскай Канстытуцыі, забяспечваецца ў СССР усеагульным і абавязковым пачатковым навучаннем, бясплатнасцю навучання ва ўсіх тыпах школ, выдачай дзяржаўнай стыпендыі студэнтам, навучаннем на роднай мове і бясплатным вытворча-тэхнічным і агранамічным навучаннем працоўных. Грамадзяне СССР маюць усе магчымасці для атрымання сярэдняй і вышэйшай адукацыі і атрымліваюць яе.

б) Адукацыя ў краіне социялізма—гэта не толькі права, гэта разам з тым абавязак маладых грамадзян СССР. Права на адукацыю—гэта найвялікшае заваяванне Вялікай Кастрычніцкай социялістычнай рэволюцыі. Карыстацца гэтым правам—значыць упарта, настойліва, свядома вучыцца, паказваючы прыклад арганізаванасці, свядомай дысцыпліны і высокай якасці вучэбнай работы. Вучыцца—гэта социялістычны абавязак, социялістычнае права нашай моладзі. Каб выканаць гэты абавязак з гонарам, наша моладзь, нашы вучні павінны вучыцца на добра і выдатна.

Працоўныя капіталістычных краін не раз падымаліся на барацьбу за права на адукацыю для ўсіх людзей. У рэзультаце гэтай упартай і працяглай барацьбы пролетарыята ў радзе краін удалося вырваць у буржуазіі закон аб усеагульным і абавязковым пачатковым навучанні. Эксплаататарскія класы заўсёды ўпарта супрацiўляліся барацьбе працоўных за права на адукацыю, і калі буржуазія вымушана была ў радзе краін увесці закон аб усеагульным аба-

вязковым пачатковым навучанні, то яна рабіла ўсё, што толькі было ў яе сілах, каб фактычна сарваць гэты закон. У першым томе „Капітала“ К. Маркса, у XIII раздзеле, паданы цэлы рад вельмі важных цікавых фактаў аб барацьбе рабочага класа за адукацыю. Настаўніку трэба азнаёміцца з гэтым матэрыялам, выкарыстаць на ўроку паданыя факты. Пажадана зачытаць вучням матэрыял аб барацьбе вуглякопаў за адукацыю для сваіх дзяцей; матэрыял змешчан на стар. 542 „Капітала“, т. I, выд. 1937 г.

У Германіі зараз 30% дзяцей школьнага ўзросту не ахоплена школьным навучаннем. У Польшчы толькі ў гэтым навучальным годзе адмоўлена паўтара мільёнам вучняў у прыняцці іх у школу. У Англіі каля 25-ці процантаў дзяцей не ахоплена школьным навучаннем. Такое становішча і ў іншых капіталістычных краінах.

Закон аб усеагульным навучанні ў капіталістычных краінах нічым не гарантуецца, а таму размовы аб праве на адукацыю ў капіталістычных краінах для ўсяго народа ёсць фікцыя, ашуканства і двудушша. Ні ў адной капіталістычнай краіне сапраўднага ўсеагульнага навучання няма. Адукацыя ў капіталістычных краінах—гэта права толькі для заможных, для буржуазіі, дваран і памешчыкаў. Сапраўднае і поўнае ўсеагульнае навучанне дзяцей усяго народа ажыццёўлена толькі ў СССР. У такіх краінах фашызма, як Германія, Польшча, Італія, Японія, затраты на народную асвету змяншаюцца штогодна. У краінах фашызма ідзе варварскае знішчэнне каштоўнасцей культуры. Універсітэты ператвараюцца ў казармы, бібліятэкі штогодна скарачаюцца, кнігі найвялікшых геніяў чалавецтва спальваюцца; на кастрах палаюць творы славутых вучоных, пісьменнікаў і т. д. Замест культуры фашызм прапануе народу рэлігію, мракабессе, фашысцкую муштру, распальвае расавую нянавісць да другіх нацый. Фашызм вядзе народы да бескультур'я, невуцтва, да разгрома ўсіх каштоўнасцей культуры. Фашызм—гэта вайна ўсяму прагрэсіўнаму чалавецтву.

Наша краіна 20 год таму назад у галіне асветы была адной з найбольш адсталых краін у Еўропе. Вось што пісаў Уладзімір Ільіч Ленін у артыкуле „Да пытання аб палітыцы міністэрства народнай асветы“: „Такой дзікай краіны, у якой масы народа настолькі былі аграблены ў сэнсе адукацыі, святла і ведаў,—такой краіны ў Еўропе не асталося ні адной, апрача Расіі“ (том XVI).

Настаўніку трэба ўважліва прачытаць да ўрока ўказаны артыкул Леніна, выкарыстаць фактычны матэрыял і на ўроку паказаць вучням, што царскае міністэрства народнай асветы было па сутнасці міністэрствам народнага

зацямнення. Гэты вывад павінен грунтавацца на канкрэтных фактах. У Расіі было 83% непісьменнага насельніцтва; дзеці школьнага ўзросту складалі 22% насельніцтва краіны, а навучалася ў школе толькі 4,6%, г. зн. амаль у пяць разоў менш. Расходы на народную асвету на чалавека ў Расіі складалі ў сярэднім 80 кап. У Туркменістане на народную асвету трацілася 50 кап. на чалавека, ва Узбекістане—25 кап., столькі-ж, прыкладна, і ў Беларусі. А ў СССР зараз траціцца больш 40 руб. на чалавека. Гэта ў сярэднім, а ў паасобных рэспубліках нават у 2-3 разы больш.

Ад яркай і пераканаўчай мовы лічбаў настаўнік пераходзіць да расказа аб тым, чаму вучыла і як вучыла старая школа. Настаўнік расказвае аб прадметах, якія вывучаліся ў старой школе, і прыводзіць вучняў да вывада, што старая школа абцяжарвала сваіх вучняў „безмернай колькасцю ведаў, на дзевяць дзесятых непатрэбных і на адну дзесятую скажоных“ (Ленін). Настаўнік расказвае аб той зуброжцы, муштры, палачнай дысцыпліне, якая існавала ў старой школе. Настаўнік зачытвае асобныя ўрыўкі з „Очерков бурсы“ Памялоўскага (стар. 76—80) або з другіх кніг, расказвае, як каралі і зневажалі вучняў у старой школе. Настаўнік павінен таксама расказаць аб процантнай норме, існаваўшай у старой школе для дзяцей нерускай нацыянальнасці, аб вучнёўскіх забастоўках, накіраваных супроць старой школы, супроць царскага ладу. Калі час дазволіць, трэба расказаць, як вучыліся Ламаносаў, Горкі, акадэмік Губкін, па іх уласных апісаннях.

Пасля таго, як настаўнік намаляваў яркую карціну стану народнай асветы ў Расіі да Кастрычніка 1917-га года, ён пераходзіць да паказу грандыёзных поспехаў культурнага будаўніцтва ў СССР за 20 год соцыялістычнай рэволюцыі. Настаўнік павінен коратка, але ярка і пераканаўча расказаць дзецям аб росце колькасці вучняў у СССР у пачатковай і сярэдняй школе, аб росце вышэйшых навучальных устаноў у СССР, аб росце бюджэта на народную асвету, аб поспехах народнай асветы ў брацкіх рэспубліках. Трэба падкрэсліць поспехі народнай асветы ў БССР і паказаць мясцовыя дасягненні ў галіне народнай асветы (у раёне, у даным горадзе, сяле). Для большай яркасці можна падаць канкрэтны прыклад сям'і, да якой належыць хто-небудзь з вучняў, і паказаць, як вырасла і змянілася гэтая сям'я за годы совецкай улады ў культурных адносінах. Вось два прыклады.

Я. С.—рабочы, токар, стаханавец, зарабляе ў сярэднім каля 700 руб. у месяц; жонка—хатняя гаспадыня; бацькі маюць шасцёра дзяцей. Да рэволюцыі ў сям'і бацькоў быў

адзін чалавек з пачатковай адукацыяй, астатнія былі непісьменныя, а зараз адзін сын—ваенны ўрач, другі—астраном, трэці—інжынер, дачка—настаўніца гісторыі ў сярэдняй школе, другая дачка вучыцца ў медыцынскім інстытуце, а самы малодшы сын вучыцца ў 4-м класе сярэдняй школы.

Другі прыклад. Бацька і маці—калгаснікі. Бацька—брыгадзір калгаса, член праўлення; маці—намеснік старшыні сельсовета. Старшы сын у гэтай сям'і— ветэрынарны ўрач, дачка—загадчыца пачатковай школы. Абодва яны працуюць у раёне, дзе жывуць іх бацькі. Другая дачка вучыцца ў кансерваторыі, трэцяя—аграном, чацвертая—звеннявая ў калгасе і вучыцца ў школе для дарослых, другі сын—трактарыст, рыхтуецца да паступлення ў лётную школу, самы малодшы вучыцца ў 6-м класе няпоўнай сярэдняй школы, марыць хутчэй скончыць школу і паступіць у мастацкі тэхнікум. А да рэвалюцыі ў сем'ях бацькоў толькі адзін чалавек скончыў царкоўна-прыходскую школу, усе астатнія былі непісменныя.

Аналагічныя прыклады можна знайсці ў любым месцы. Яны наглядна паказваюць, што права на адукацыю—гэта ўжо не мара, а рэальны факт, заваяваны ў барацьбе за соцыялізм і зарэгістраваны ў Сталінскай Канстытуцыі.

Далей настаўнік звяртае асобую ўвагу вучняў на тое, што наша партыя і ўрад з першых дзён совецкай улады клопаты аб дзецях паставілі як адну з важнейшых дзяржаўных задач. 4-га студзеня 1919 года па ініцыятыве Уладзіміра Ільіча Леніна быў выдан дэкрэт аб ахове здароўя дзяцей, аб арганізацыі іх харчавання, аб забяспячэнні іх адзеннем, аб аказанні дзецям медыцынскай дапамогі і т. д. „Прымаючы пад ўвагу цяжкія ўмовы жыцця ў краіне,—пісалася ў гістарычнай пастанове,—і ляжачы на рэволюцыйнай уладзе абавязак аберагчы ў небяспечны пераходны час падрастаючае пакаленне, Совет Народных Камісараў гэтым дэкрэтам зацвярджае Асобы Совет Абароны дзяцей“ („Правда“ ад 23 верасня 1937 г.).

Гэты совет адыграў вельмі вялікую роль у барацьбе з дзіцячай беспрытульнасцю і безнагляднасцю, у палепшанні жыцця дзяцей. Любоў да юнага пакалення, клопаты аб дзецях заўсёды былі ўласцівы нашай партыі, вялікаму Леніну і Сталіну.

У краіне перамогшага соцыялізма для дзяцей пабудаваны самыя цудоўныя палацы, дзіцячыя сады, школы, яслі, лепшыя санаторыі, стадыёны, тэатры, кіно. Совецкая ўлада аддала дзецям самыя лепшыя сады, паркі. На беразе Чорнага мора для дзяцей створан цудоўны лагер "Артэк". У 1937 годзе ў „Артэку“ адпачывала 4 тысячы дзяцей. Партыя і совецкая ўлада стварылі для дзяцей спецыяльны

дзіцячы друк, аб'яднаны ў дзіцячым выдавецтве. Тыраж дзіцячай літаратуры у 1936 г. перавысіў 39 мільёнаў экземпляраў. На мовах нацыянальнасцей у СССР выдаюцца 53 піонерскія газеты. Музыкальная, выяўленчая, тэатральная і тэхнічная творчасць дзяцей знаходзяць у нашай краіне самую шырокую дапамогу і падтрымку. Партыя і ўрад даюць самы шырокі прастор для развіцця талентаў і здольнасцей нашых дзяцей, і гэтыя таленты растуць з кожным днём. Мы пакалі ўсяму свету, хоць-бы на прыкладзе апошніх сусветных конкурсаў піяністаў і скрыпачоў, якія таленавітыя дзеці растуць у нас. У Варшаве на сусветным конкурсе піяністаў, у Бруселі на конкурсе скрыпачоў, у Парыжы на выстаўцы дзіцячых рысункаў—усюды, куды трапляла творчасць савецкіх дзяцей, яна атрымлівала самую высокую ацэнку і прызнанне таго, што ў СССР растуць высока-культурныя, здольныя, таленавітыя дзеці.

Цэнтральны Камітэт партыі і асабіста тав. Сталін праяўляюць выключныя клопаты аб адукацыі, выхаванні савецкіх дзяцей. Пастановы ЦК аб школе, прынятыя па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам тав. Сталіна, ахапляюць усе пытанні школьнага жыцця і накіраваны на тое, каб наша школа працавала чотка, высокаякасна, па-большэвіцку, каб яна рыхтавала добра адукаваных і ўсебакова развітых людзей. Зусім нядаўна ўрад вельмі значна павысіў зарабатную плату настаўнікам і стварыў ім лепшыя ўмовы для работы. Пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта партыі створаны стабільныя падручнікі для школ. Складаннем падручніка па гісторыі СССР кіравалі тт. Сталін, Кіраў і Жданаў. Нават такое пытанне, як вучэбныя прыналежнасці: пер'і, ручкі, сшыткі, алоўкі, было таксама разгледжана Цэнтральным Камітэтам партыі і Советам Народных Камісараў СССР. Па гэтаму пытанню мы маем спецыяльныя пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР, якія забяспечваюць вучняў высокаякаснымі вучэбнымі дапаможнікамі і прыналежнасцямі.

Ворагі народа—трацкісцка-бухарынскія бандыты—хацелі вярнуць назад памешчыкаў, фабрыкантаў, кулакоў. Яны „хацелі адабраць у нашых дзяцей іх шчаслівае дзяцінства, выгнаць іх з школы, адабраць у іх палацы, санаторыі, яслі, хацелі пазбавіць іх паветра, сонца і святла і асудзіць іх і іхніх бацькоў на рабства, на эксплаатацыю, слязьмі і крывёю заліць нашу родную зямлю. Гэтаму ніколі не бываць". Слаўныя чэкісты пад кіраўніцтвам партыі і ўрада раскрылі зладзейскія замыслы і бандыцкія справы гэтых злейшых ворагаў народа. Ворагі разгромлены, але іх астаткі яшчэ там-сям арудуюць. Таварыш Сталін вучыць нас ніколі не забываць, што пакуль яшчэ існуе капіталістычнае акружэнне,

буржуазныя ахранкі будуць і ў будучым засылаць да нас шпіёнаў, дыверсантаў і шкоднікаў. Трэба ўдзесяцярыць нашу пільнасць, яшчэ пільней сачыць за ворагам, трэба вучыцца выкрываць яго ўсюды, дзе-б і як-бы ён не маскіраваўся.

—Як бачыце, дзеці,—заключае настаўнік,—партыя і ўрад стварылі вам самыя лепшыя ўмовы для вучобы. У нас ёсць усе магчымасці, каб савецкія дзеці вучыліся на добра і выдатна. Гэта наш абавязак.

Далей настаўнік гаворыць аб задачы падняцця якасці ведаў вучняў і заклікае іх быць вернымі сынамі нашай сацыялістычнай радзімы, дастойнымі сталінскіх клопатаў.

Ізлажэнне матэрыялу аб поспехах народнай асветы за 20 год Соцыялістычнай рэволюцыі суправаджаецца ілюстрацыяй карцін, фота-здымкаў з жыцця дзяцей, работы савецкай школы; калі ў школе ёсць панно „Сталін і дзеці", то яго трэба таксама прынесці ў клас.

Заканчваецца ўрок замацаваннем ізложанага настаўнікам вучэбнага матэрыялу і растлумачэннем задання на дом.

Літаратура для настаўніка.

*Ленін*—„Задачи союза молодежи", т. XXX, стар. 403—417.
*Ленін*—„К вопросу о политике министерства народного просвещения" т. XVI, стар. 409—416.
*Ленін*—„Речь на 1-м Всероссийском съезде по просвещению", т. XXIII стар. 197—199.
*Брашура*—„Право на образование".
*Сталін*—„Речь на VIII съезде ЛКСМ".
*Маркс*— т. I, раздзел XIII.
*Помялоўскі*—„Очерки бурсы".
Газета „Правда" ад 1 верасня 1937 года.

*Старшы навуковы работнік НДІ Шк. Педагогікі*
*І. Фрэйдман.*

---

# ЯК ПРАВОДЗІЦЬ АНТЫРЭЛІГІЙНАЕ ВЫХАВАННЕ Ў ШКОЛЕ

ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА Ц.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі наш совецкі народ пабудаваў соцыялізм у СССР.

У сувязі з гэтым ворагі народа—трацкісцка-бухарынскія і нацдэмаўскія бандыты, агенты фашызма прабуюць выкарыстаць розныя контррэволюцыйныя сродкі, у тым ліку і рэлігію, для сваіх мэт—дыверсіі і шкодніцтва ва ўсіх галінах нашай соцыялістычнай гаспадаркі і культуры. Перад намі стаіць задача максімальнага ўзмацнення антырэлігійнай работы і барацьбы з рэлігійным дурманам.

Якімі-ж павінны быць змест, метады і формы антырэлігійнай прапаганды і агітацыі ў сучасны момант, наогул і ў школе ў прыватнасці. Адказ на гэта пытанне даюць класічныя работы Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна і велізарнейшы дакумент нашай эпохі—Сталінская Канстытуцыя.

У артыкуле 124 Канстытуцыі запісана:

„У мэтах забеспячэння за грамадзянамі свабоды сумлення царква ў СССР аддзелена ад дзяржавы і школа ад царквы. Свабода адпраўлення рэлігійных культаў і свабода антырэлігійнай прапаганды прызнаецца за ўсімі грамадзянамі“.

Сталінская Канстытуцыя абвясціла ўсеагульнае роўнае і прамое выбарчае права пры тайным галасаванні. Права выбіраць у Советы працоўных атрымалі і тыя грамадзяне, якія раней гэтага права былі пазбаўлены, у тым ліку і служыцелі культаў. Было бы грубейшай палітычнай памылкай лічыць, што папоўска-сектанцкія элементы не будуць імкнуцца выкарыстаць гэтага права ў сваіх шкодніцкіх мэтах і не папрабуюць выкарыстаць для гэтых-жа мэт і рэлігійныя перажыткі веруючых. Таму неабходна яшчэ больш павысіць большэвіцкую пільнасць і своечасова ўскрываць і ліквідаваць проіскі ворагаў народа.

Праводзячы антырэлігійную прапаганду, трэба заўсёды памятаць указанне Леніна аб тым, што барацьбу з рэлігіяй трэба паставіць у сувязь з канкрэтнай практыкай класавай барацьбы. У працэсе антырэлігійнай агітацыі і прапаганды трэба не толькі выкрываць міфы, рэлігійныя забабоны, а ўвязваць гэту работу з задачамі палітычнай барацьбы, з

задачамі нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Калі гаварыць канкрэтна аб сённешнім дні, то гэта будзе азначаць, што антырэлігійную прапаганду трэба ўвязаць з выбарамі ў Вярхоўны Совет, а затым і ў мясцовыя Советы працоўных. Антырэлігійная работа павінна дапамагчы нам не прапусціць у органы дыктатуры рабочага класа варожых, контррэвалюцыйных элементаў.

Неабходна павесці растлумачальную работу аб класавай сутнасці рэлігіі, якую класы эксплаататараў выкарыстоўвалі для адурманьвання працоўных мас і іх закабалення. Ленін пісаў: „Ідэя бога заўсёды прытупляла соцыяльныя „адчуванні“, падмяняючы жывое мярцвячынай, будучы заўсёды ідэяй рабства, горшага бязвыхаднага рабства“.

Антырэлігійная работа павінна весціся сістэматычна, а не па-кампанейску. Без цярплівай растлумачальнай работы, аб якой гаварыў тав. Сталін, у галіне выкарчоўвання рэлігійных перажыткаў—нічога нельга зрабіць. Выхаванне навуковага матэрыялістычнага светапогляду патрабуе ўпартай, працяглай і крапатлівай работы. Трэба рашуча пакончыць з контррэволюцыйнай тэорыяй „самацёка“ ў антырэлігійнай рабоце. У апошнія годы мы мелі аслабленне антырэлігійнай прапаганды. Шкодніцкія ўстаноўкі мінулага кіраўніцтва НКА БССР і РСФСР прывялі да закрыцця многіх антырэлігійных музеяў, клубаў, хат-чытален, скарачэння выданняў антырэлігійнай літаратуры. Ліквідацыя антырэлігійнай работы ў школе была накіравана на тое, каб падтрымаць рэлігію, каб узмацніць рэлігійны дурман, каб сарваць комуністычнае выхаванне дзяцей.

Неабходна пакончыць з контррэволюцыйнай „тэорыяй“ безрэлігійнага выхавання, якая вядзе свой пачатак ад бухарынска-рыкаўскай контррэволюцыйнай устаноўкі аб патуханні класавай барацьбы ў перыяд соцыялістычнага будаўніцтва. У практыцы школьнай работы гэта „тэорыйка“ падтрымлівалася ілжэ-вучонымі педолагамі, а таксама „тэарэтыкамі“ антыленінскай тэорыі адмірання школы. Яны імкнуліся давесці, што дзеці прыходзяць у школу бязбожнікамі і таму непатрэбна весці антырэлігійную работу.

Совецкі настаўнік, які выхоўвае падрастаючае пакаленне ў комуністычным духу, павінен мець на ўвазе, што антырэлігійнае выхаванне ў школе з“яўляецца арганічнай часткай комуністычнага выхавання. Выходзячы з гэтага, кожная школа будуе канкрэтны план антырэлігійнай работы, улічваючы наступныя канкрэтныя шляхі:

1. Неабходна памятаць, што школа закладвае асновы марксіцкага светапогляду, а гэта немагчыма без моцнага

засваення асноў навук і сістэматычнай, на працягу ўсіх год навучання, антырэлігійнай работы. Гэта работа павінна весціся ў жывой, яркай і даступнай дзецям форме на ўроках па ўсіх вучэбных прадметах.

На ўроках гісторыі трэба паказаць вучням на жывых канкрэтных фактах рэакцыйную, контррэвалюцыйную роль царквы, рэлігіі і яе служак на ўсім працягу чалавечай гісторыі. Ва ўсіх школах БССР у 3, 4, 5, 6, 7 класах пачалося выкладанне гісторыі СССР па „Кароткаму курсу гісторыі СССР" пад рэдакцыяй праф. Шэстакова. Ужо на першых уроках гісторыі СССР „Як людзі жылі ў далёкім мінулым", „Ад рода да дзяржавы" і інш. трэба паказаць вучням той факт, што рэлігія з моманту паяўлення класаў заўсёды была паслядоўнай абаронцай эксплаататарскіх класаў. Настаўнік, паказваючы вучням прагрэсіўнасць увядзення хрыстыянства ў параўнанні з язычаствам, павінен адначасова падкрэсліць, што прагрэсіўнае значэнне ўвядзення хрыстыянства—з"ява часовая і адносная; рэлігійны-ж светапогляд заўсёды з"яўляецца рэакцыйным.

На ўроках прыродазнаўства трэба паказаць вучням матэрыялістычную аснову законаў прыроды, паказаць ілжывасць усіх міфаў аб стварэнні свету, аб канечнасці сусвету, паказаць, што рэлігія заўсёды змагалася з навукай, што царква і зараз выступае ў саюзе з фашызмам і іншымі носьбітамі рэакцыі.

На ўроках літаратуры пры аналізе літаратурных твораў, пры вывучэнні біяграфіі пісьменнікаў неабходна выкарыстаць усе магчымасці для антырэлігійнага выхавання вучняў. Так, напрыклад, настаўніку нельга абыйсці пытанне аб антырэлігійных перакананнях Пушкіна, Белінскага, Некрасава і інш. Нельга таксама не падкрэсліць перад вучнямі і роль царквы ў праследванні Пушкіна, Талстога, Лермантава і інш. Пры аналізе мастацкага твору настаўнік павінен звярнуць увагу вучняў на антырэлігійныя моманты ў творы і на іх мастацкае выражэнне („Кому на Руси жить хорошо"—Некрасава, „Сказка о попе и его работнике Балде"—Пушкіна і т. д.).

Вядома, антырэлігійнае выхаванне на ўроку павінна з'яўляцца арганічнай часткай ізлагаемага матэрыялу.

Высвятляючы вучням на ўроку класавую, контррэвалюцыйную роль рэлігіі, настаўнік так ізлагае матэрыял, каб узбудзіць у іх нянавісць да рэлігіі і жаданне і гатоўнасць змагацца з рэлігіяй і перамагчы яе.

Гэта-ж адносіцца і да выкладання ўсіх прадметаў у школе.

2. Школа праз вучняў і настаўнікаў дапамагае партыйным і савецкім арганізацыям у антырэлігійнай рабоце сярод дарослых: арганізоўвае антырэлігійныя вечары, настаўнікі і старшыя вучні актыўна ўдзельнічаюць у сходах насельніцтва па антырэлігійных пытаннях.

3. Акрамя сістэматычнай работы па антырэлігійнаму выхаванню на ўроках, школа арганізоўвае рознастайную пазашкольную работу з дзецьмі па антырэлігійнай прапагандзе. У школе можна арганізаваць гурткі для VIII, IX, X кл., якія працуюць па вядомай тэматыцы, напрыклад: „Ленін і Сталін аб контррэвалюцыйнай сутнасці рэлігіі", „Контррэвалюцыйная роль рэлігіі ў французскай буржуазнай рэвалюцыі XVIII века" і інш. Такія гурткі павінны арганізоўвацца перыядычна. Для вучняў старшых класаў дадаткова можна арганізаваць антырэлігійны семінар. Члены семінара павінны прымаць удзел у антырэлігійнай рабоце сярод насельніцтва: у чытцы антырэлігійнай літаратуры, у кіраўніцтве першапачатковымі антырэлігійнымі гурткамі і т. д.

Можна (для вучняў) арганізаваць лекцыі з антырэлігійным зместам (эпізадычныя і цыклавыя) па розных прадметах: астраноміі, біялогіі, гісторыі і інш. Школа павінна распрацаваць план гэтых лекцый і ўключыць іх у агульны план пазашкольнай работы.

4. У час набліжэння рэлігійных свят (вялікадня, каляд) трэба праводзіць даклады, гутаркі з вучнямі з мэтай высвятлення контррэвалюцыйнай сутнасці рэлігійных свят, іх класавага характару і шкоднасці для соцыялістычнага будаўніцтва. Старшым вучням трэба даручыць правесці дома антырэлігійную.работу. У сваіх дагаварах па соцспаборніцтву яны могуць узяць на сябе адпаведныя абавязкі па антырэлігійнай прапагандзе сярод бацькоў, суседзяў і т. д. Напярэдадні рэлігійных свят школа павінна арганізаваць антырэлігійную вітрыну, выдаць спецыяльную насценную газету. У вітрыне і насценнай газеце трэба змясціць малюнкі, карыкатуры, маючыя антырэлігійнае значэнне, вытрымкі з твораў класікаў марксізма-ленінізма аб рэлігіі. Газета павінна адлюстроўваць стан антырэлігійнай работы ў школе, паказваць лепшыя класы, піонерскія атрады і звенні па антырэлігійнаму выхаванню. Каб прыцягнуць да сябе ўвагу вучняў, газета павінна быць аформлена ярка, па-мастацку.

5. Праз школьныя вучнёўскія і піонерскія арганізацыі трэба правесці выпіску антырэлігійных журналаў: „Антирелигиозник" і „Безбожник". Сярод вучняў

трэба папулярызаваць совецкія мастацкія творы, якія маюць антырэлігійнае значэнне (вершы Маякоўскага, антырэлігійныя работы Яраслаўскага). Класны кіраўнік павінен правяраць, ці чытаюць вучні гэтыя кніжкі, і час-ад-часу праводзіць з імі гутаркі аб прачытаных кнігах.

У агульны план пазашкольнай работы павінны быць уключаны і такія віды антырэлігійнай прапаганды, як пастаноўка антырэлігійных п'ес, дэкламацыя, інсцэніроўка і т. д.

6. Зразумела, вучні павінны быць папярэджаны аб недапушчальнасці знявагі рэлігійных поглядаў адсталай часткі працоўных. Гэта адносіцца і да работы з тымі вучнямі, якія пад уплывам веруючых бацькоў яшчэ не парвалі да канца з рэлігіяй. Індывідуальную работу з такімі вучнямі трэба даручаць толькі тым асобам, якія добра знаёмы з метадамі антырэлігійнай прапаганды. Часам праз сям'ю, у якой ёсць веруючыя асобы, дзецям прывіваюцца рэлігійныя забабоны. Зусім зразумела, што без спецыяльнай работы з такой сям'ёй школе будзе цяжка ліквідаваць астаткі рэлігійнага дурмана ў вучняў. У такіх выпадках трэба ўцягнуць членаў данай сям'і ў антырэлігійны гурток для бацькоў пры школе, праводзіць з імі індывідуальныя гутаркі, забяспечыць іх антырэлігійнай літаратурай.

У выпадку, калі выявіцца, што некаторыя бацькі прымушаюць сваіх дзяцей выконваць рэлігійныя абрады, настаўнікі павінны растлумачыць бацькам, што артыкул Сталінскай Канстытуцыі аб свабодзе сумлення адносіцца таксама і да вучняў і што, такім чынам, учынак бацькоў з'яўляецца парушэннем Канстытуцыі. Калі-ж растлумачальная работа не прывядзе да належных вынікаў, школа можа звярнуцца да грамадскіх арганізацый.

7. У справе антырэлігійнага выхавання вучняў **піонерская арганізацыя і комсамол адыгрываюць важную роль.** Антырэлігійныя гутаркі, арганізацыя па звеннях антырэлігійных дэкламацый, экскурсія ў антырэлігійны музей, чытка антырэлігійнай літаратуры—усё гэта могуць і павінны праводзіць піонеры і комсамольцы пры дапамозе настаўнікаў і пад непасрэдным кіраўніцтвам комсамольскай арганізацыі і дырэктара школы. Піонерскія атрады павінны ўцягваць усіх вучняў ва ўсе мерапрыемствы па антырэлігійнаму выхаванню.

8. Работа па разгортванню антырэлігійнай прапаганды патрабуе ад настаўніка, як цэнтральнай фігуры педпрацэса, глыбокага засваення вучэння Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна аб рэлігіі. Для гэтага неабходна пры школе арга-

нізаваць адпаведны гурток для настаўнікаў або наладзіць індывідуальнае вывучэнне наступных работ:

1) Ленін—„Социализм и религия“ (т. VIII).

2) Ленін—„Об отношении рабочей партии к религии“.

3) Ленін—„Поп Гапон“ (т. VII).

4) Маркс і Энгельс—„Религия—опиум народа“ („Избранные отрывки о религии и борьбе с нею“).

5) Ем. Яраслаўскі—„Сталин о религии“.

6) Паасобныя артыкулы з журналаў „Большевик“ і „Под знаменем марксизма“ за 1937 г.

Уся выхаваўчая антырэлігійная работа ў школе павінна быць насычана канкрэтнымі фактамі, звязана з класавай барацьбой. Па гэтаму пытанню Ленін пісаў: „Барацьбу з рэлігіяй нельга абмяжоўваць абстрактна-ідэалагічнай прапаведдзю, нельга звадзіць да такой пропаведзі; гэту барацьбу трэба паставіць у сувязь з канкрэтнай практыкай класавага руху, накіраванага да ўстаранення соцыяльных карэнняў рэлігіі“ (т. XIV, стар. 70).

Недапушчальна звесці ўсю антырэлігійную работу толькі да „культурніцкай пропаведзі“, калі палітычны бок барацьбы з рэлігіяй затушоўваецца і з антырэлігійнай работы выхалашчваецца яе партыйнасць. Вядома, у антырэлігійнай рабоце павінны быць выкрыты канкрэтныя носьбіты рэлігійнага дурману, як мракабесы і ворагі працоўных. Неабходна паказаць класавую сутнасць, шкоднасць рэлігіі ў цэлым як дурману народа.

Часта ў школе вядзецца барацьба толькі супроць якой-небудзь адной рэлігіі, што з'яўляецца няправільным. Антырэлігійная работа ў школе павінна быць накіравана супроць усіх рэлігій.

Антырэлігійная работа ў школе павінна спалучацца з глыбокай работай ва ўсіх галінах комуністычнага выхавання. Сапраўдным ваяўнічым бязбожнікам можа быць толькі той, хто з'яўляецца паслядоўным пролетарскім інтэрнацыяналістам, совецкім патрыётам, да канца адданым сваёй соцыялістычнай радзіме, комуністычнай партыі і правадыру ўсіх працоўных тав. Сталіну. Толькі той умее да канца ненавідзець усякага рода царкоўнікаў, хто ненавідзіць усіх і ўсякіх ворагаў народа.

*Старшы навуковы работнік*
*НДІ школьнай педагогікі Лявіцкі*

---

## ЯК РАСПРАЦОЎВАЦЬ У V КЛАСЕ ТЭМУ „АГУЛЬНАЕ ПАНЯЦЦЕ АБ СКЛАНЕННЯХ НАЗОЎНІКАЎ“

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА З., ХОЙНІЦКІ Р., НЕБЫШАЎСКАЯ НСШ)

Правапіс склонавых канчаткаў назоўнікаў займае вялікае месца ў нашай школьнай практыцы. Выпраўленне пісьмовых работ вучняў сведчыць аб тым, што значная колькасць арфаграфічных памылак прыходзіцца на правапіс склонавых канчаткаў назоўнікаў.

Склонавыя канчаткі назоўнікаў лёгка засвайваюцца вучнямі, калі выкладчык правільна і ўмела арганізуе вывучэнне гэтага матэрыялу і дасць вучням правільнае і яснае разуменне самой сістэмы канчаткаў.

Як сістэматызуюцца канчаткі асноўных груп назоўнікаў? Гэта сістэматызацыя праводзіцца па двух лініях: а) скланенне назоўнікаў (І, ІІ і ІІІ); б) залежнасць склонавых канчаткаў ад асновы назоўнікаў.

Неабходна дабіцца таго, каб вучні ўсвядомілі, што канчаткі назоўнікаў паказваюць на сувязь назоўнікаў з кіруючымі словамі. Часта вучні добра скланяюць назоўнікі, але не ўмеюць правільна разабраць склон таго ці іншага слова ў тэксце. Яны часта блытаюць назоўны і вінавальны склоны, родны і вінавальны і т. д.

Пры разборы сказаў неабходна заўсёды дабівацца, каб вучань, указваючы склон назоўніка, звязваў склонавым пытаннем даны назоўнік з кіруючым словам.

Зразумела, што і пры тлумачэнні вучням тыпаў скланення мэтазгодна спачатку даць назоўнікі розных скланенняў у тэксце і агульнае паняцце аб скланеннях назоўнікаў, а далей перайсці да вывучэння кожнага скланення пасобку.

Вось адзін з урокаў, праведзеных у менскай сярэдняй школе на тэму „Агульнае паняцце аб скланеннях назоўнікаў“.

Урок пачаўся з праверкі засваення вучнямі агульнага паняцця аб назоўніку. Перад вучнямі былі пастаўлены наступныя пытанні:

Што такое назоўнік? Якімі членамі ў сказе могуць быць назоўнікі? Ці змяняюць свае канчаткі назоўнікі ў залежнасці ад ліку? Ці ўсе назоўнікі маюць форму адзіночнага і множнага ліку? На колькі родаў можна падзяліць назоўнікі? Як пазнаць род назоўніка? Што такое скланенне назоўнікаў?

Пасля гэтага было зроблена назіранне над тэкстам. Мэта гэтага назірання—падвесці вучняў да разумення скланенняў назоўнікаў.

Назіранне праводзілася над наступным тэкстам:

„Набліжаецца зіма (лета, май, восень). З кожнай хвілінай мы ўсё бліжэй да зімы (лета, мая, восені). Рады дзеці зіме (лету, маю, восені). Яны дружна сустракаюць зіму (лета, май, восень). Разам з зімой (летам, маем, восенню) да іх прыходзяць новыя забавы і гульні. У дзяцей шмат песень аб зіме (леце, маі і восені)".

У запісаным на дошцы тэксце назоўнік „зіма" выдзяляецца зялёным мелам. Вучні запісваюць тэкст у сшыткі. Прычым пасля назоўніка „зіма" пакідаецца месца для ўпісання новых назоўнікаў. Выклікаецца вучань, якому прапануецца прачытаць гэты тэкст, паставіўшы замест назоўніка „зіма" назоўнік „лета", і т. д.

Для нагляднасці назоўнікі з і м а, л е т а, м а й, в о с е н ь выпісваюцца ў табліцу разам з кіруючымі словамі. Канчаткі гэтых назоўнікаў аддзяляюцца і падкрэсліваюцца.

Унесшы назоўнікі ў табліцу, вучні зверху падпісваюць род назоўнікаў, а з левага боку адзначаюць склоны. Пры гэтым яны заўважаюць, што ў розных слупках розныя канчаткі ў адных і тых-жа склонах. Затым даецца некалькі назоўнікаў для скланення, г. зн. без сувязі з словамі першай графы табліцы (без кіруючага слова).

Выкліканы вучань скланяе адзін з назоўнікаў, звяраючы яго канчаткі з канчаткамі назоўнікаў, выпісаных у табліцу, і запісвае яго ў адпаведны слупок.

Прымаючы пад увагу, што вучні ўжо знаёмы з падзелам асноў назоўнікаў на цвёрдую, мяккую і зацвярдзелую, неабходна будзе ўспомніць напісанне галосных пасля цвёрдых і мяккіх асноў.

Пасля гэтага ставіцца пытанне: „на колькі груп можна падзяліць назоўнікі па асаблівасцях іх склонавых канчаткаў?"

Такім чынам, вучні падводзяцца да вываду, што па асаблівасцях склонавых канчаткаў назоўнікі можна падзяліць на тры групы. Гэтыя групы і называюцца скланеннямі.

Затым вывешваецца наступная табліца:

| Назоўнікі I скланення | Назоўнікі II скланення | Назоўнікі III скланення |
| --- | --- | --- |

Класу паказваюцца карткі з напісанымі на іх назоўнікамі. Выкліканы вучань, прачытаўшы голасна напісаны на картцы назоўнік, указвае, у якую з клетак гэтую картку трэба прыкласці. Картка прыкалваецца ў адпаведны слупок.

Калі ўся табліца запоўнена, робіцца агульны вывад:

Да першага скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з канчаткамі—а, я ў назоўным склоне адзіночнага ліку.

Да другога скланення адносяцца назоўнікі мужчынскага роду з чыстай асновай і ніякага роду з канчаткамі—о, ё, а, е ў назоўным склоне адзіночнага ліку.

Да трэцяга скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з чыстай асновай у назоўным склоне адзіночнага ліку.

Зразумела, што тут ахоплены не ўсе асаблівасці склонавых канчаткаў. Няма, скажам, указання на тое, што да І-га скланення адносяцца назоўнікі мужчынскага роду з канчаткамі—а, я (бацька, суддзя), няма падзелу склонавых канчаткаў у залежнасці ад асновы, але на ўроку агульнага азнаямлення з скланеннем назоўнікаў даваць гэта нямэтазгодна.

У далейшым кожнае скланенне вывучаецца асобна.

*Настаўніца Ц.*

---

## ПЛАН РАБОТЫ

### класнага кіраўніка V класа 25-й менскай сярэдняй школы на II кв. 1937/38 навуч. года

Навукова-Даследчы Інстытут Школьнай Педагогікі атрымлівае шмат пісьмаў ад настаўнікаў, у якіх задаюцца пытанні аб планаванні работы класнага кіраўніка. У сувязі з гэтым мы змяшчаем план работы аднаго з класных кіраўнікоў менскай 25 сярэдняй школы на II квартал 1937/38 вуч. года.

Рад намечаных у плане мерапрыемстваў можа быць працягнуты ў III квартале. Такія мерапрыемствы, як пазакласнае чытанне, выпуск насценнай газеты, соцыялістычнае спаборніцтва не ўвайшлі ў гэты план таму, што яны праводзяцца ў парадку сістэматычнай работы на працягу ўсяго навучальнага года.

Павышэнне якасці вучэбна-выхаваўчай работы, паглыбленне палітычнага выхавання вучняў патрабуюць выканання ў II кв. наступных задач:

1. Удзел школы і класа ў рабоце ў сувязі з падрыхтоўкай і правядзеннем выбараў у Вярхоўны Совет СССР (працяг работы, пачатай у I чв.).

2. Правядзенне дня памяці тав. Кірава. Гэта мерапрыемства скарыстаць для выхавання ў дзяцей яшчэ большай нянавісці да подлых шпіёнаў, трацкісцка-бухарынскай банды. У яркіх вобразах апісаць дзецям жыццё стойкага большэвіка-ленінца Сяргея Міронавіча, які на кожным кроку свайго жыцця грамадскія інтарэсы ставіў вышэй сваіх уласных, які вёў бязлітасную барацьбу з ворагамі народа.

3. Правядзенне свята дня Сталінскай Канстытуцыі скарыстаць у мэтах яшчэ большага выхавання ў дзяцей пачуццяў совецкага патрыятызма, любві і адданасці нашай слаўнай соцыялістычнай радзіме.

4. Недапушчэнне адставання вучняў па асобных дысцыплінах або па асобных раздзелах праграмы; барацьба

за яшчэ лепшыя паказчыкі ў навучанні. Выходзячы з гэтых задач, правесці наступныя мерапрыемствы:

1. Арганізаваць дадатковыя заняткі па рускай, беларускай мове і арыфметыцы для вучняў, атрымаўшых дрэнныя адзнакі за 1-ю чвэрць па гэтых дысцыплінах, і для вучняў, прапусціўшых заняткі па хваробе або па другіх прычынах:

а) Дадатковыя заняткі па арыфметыцы праводзіць у першы дзень шасцідзёнкі.

б) Па беларускай мове—3-ці дзень з 5 гадзін (адк.—настаўнік па беларускай мове).

в) Па рускай мове—4-ты дзень з 5 гадзін (адк.—настаўнік па рускай мове).

2. Паставіць пытанне перад грамадскімі арганізацыямі, па месцу працы бацькоў вучня Евеля, аб дрэнным выхаванні сына, што шкодзіць якасці вучобы.

3. Выклікаць бацькоў Кобленц, Эбер, Грынцэвіч і Гамшэй. Растлумачыць ім, як яны павінны дапамагаць сваім дзецям вучыцца. Для вучняў Эбер, Гамшэй—арганізаваць дома дадатковыя заняткі па пісьму.

4. Скласці тэкст памяткі „Рыхтуйся да школы з вечара“ і ўклеіць у дзённікі.

5. Арганізаваць запаўненне дошкі „Становішча вучобы і дысцыпліны па класу“.

6. Наведаць урокі па беларускай мове і літаратуры і падрыхтаваць прапановы да вытворчай нарады па палепшанню выкладання гэтых прадметаў у класе.

7. Дапамагчы выкладчыку геаграфіі арганізаваць пазашкольнае мерапрыемства па вывучэнню дзецьмі Сталінскага маршрута герояў Совецкага Саюза Чкалава, Байдукова, Белякова.

8. Склікаць сход бацькоў, на якім абгаварыць вынікі вучобы за I чвэрць.

9. Працягнуць работу, пачатую ў I чв., па азнаямленню з біяграфіяй лепшых людзей нашай краіны, якія выстаўлены кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Совета.

10. Правесці гутарку і аформіць вітрыну аб жыцці і дзейнасці слаўнага палкаводца нашай доблеснай Чырвонай Арміі, маршала Совецкага Саюза Кліменція Ефрэмавіча Варашылава.

11. Падрыхтаваць мастацкае выступленне дзяцей на вечары выбаршчыкаў у прымацаваным да школы ўчастку № 60.

12. Звярнуць асаблівую ўвагу на антырэлігійнае выхаванне ў класе:

а) на ўроках;

б) у пазашкольнай рабоце; правесці антырэлігійную гутаркі аб калядах;

г) прыняць удзел у антырэлігійным вечары ў школе;

д) правесці гутарку з бацькамі V кл. аб антырэлігійным выхаванні;

13. Забяспечыць удзел і прысутнасць школьнікаў на школьным вечары памяці тав. Кірава.

14. Правесці гутарку з дзецьмі аб гібелі цеплахода „Комсамол".

15. Дапамагчы важатай арганізаваць экскурсію на выстаўку, прысвечаную XX гадавіне Кастрычніцкай рэволюцыі.

16. Арганізаваць калектыўны прагляд п'есы: „Як гарталася сталь".

17. Распрацаваць мерапрыемствы па правядзенню зімовых канікул.

18. Правесці з дзецьмі падагульненне 1-га поўгоддзя.

*Класны кіраўнік Мітліна*

---

# АДНАЧАСОВАЕ ПРАВЯДЗЕННЕ НАСТАЎНІКАМ УРОКА Ў II І IV КЛАСЕ [1])

## У НДІ ШКОЛЬНАЙ ПЕДАГОГІКІ ПАСТУПІЎ РАД ПЫТАННЯЎ АБ РАБОЦЕ НАСТАЎНІКА З ДВУМА КЛАСАМІ. НІЖЭЙ ЗМЯШЧАЕМ АДЗІН УРОК ЯК МАТЭРЫЯЛ ДЛЯ АБМЕНА ВОПЫТАМ

**Тэма ўрока ў II класе:** Самастойнае рашэнне вучнямі прыкладаў на складанне і адыманне ў межах 100; вуснае рашэнне задач пад кіраўніцтвам настаўніка.

**Тэма ўрока ў IV класе:** Прачытаць, навучыцца расказваць казку „Ленінская праўда“ і вызначыць яе галоўныя часткі.

Размеркаванне часу работы настаўніка пры адначасовых занятках з 2-ма класамі.

| II клас | | IV клас | |
|---|---|---|---|
| Час | Характар работы | Час | Характар работы |
| $9^{55}$—10 | Настаўнік правярае дамашнюю работу вучняў па заданню з мінулага ўрока. | $9^{55}$—10 | Вучні самастойна чытаюць казку „Ленінская праўда“. |
| 10—$10^{12}$ | Вучні самастойна рашаюць прыклады па заданню настаўніка. | 10—$10^{12}$ | Настаўнік праводзіць узор чытання казкі „Ленінская праўда“, тлумачыць незразумелыя словы і выразы. |
| $10^{12}$—$10^{25}$ | Настаўнік выбарачна правярае самастойную работу вучняў на ўроку, потым вучні рашаюць пры дапамозе настаўніка вусныя задачы. | $10^{12}$—$10^{25}$ | Вучні самастойна прадаўжаюць чытаць казку „Ленінская праўда“ і вызначаюць прыкладны план казкі. |

1) Урок праведзен у Трасцяніцкай пачатковай школе, Барысаўскага раёна, у 1937 годзе.

| II клас | | IV клас | |
| --- | --- | --- | --- |
| Час | Характар работы | Час | Характар работы |
| $10^{2}$ — $10^{38}$ | Па заданню настаўніка вучні самастойна рашаюць пісьмовыя задачы з падручніка. | $10^{25}$ — $10^{38}$ | Праводзіцца галоснае тлумачальнае чытанне частак казкі з удзелам настаўніка, пераказ прачытанага і запіс плана казкі на класнай дошцы. |
| $10^{38}$ — $10^{40}$ | Настаўнік выбарачна правярае вынікі рашэння задач вучнямі і дае заданне на дом. | $10^{38}$ — $10^{40}$ | Вучні працягваюць раней пачатую работу. Гэтая-ж работа ім прапанована ў якасці задання на дом для падрыхтоўкі к наступнаму ўроку роднай мовы. |
| $10^{40}$ — | Званок на перапынак і канец урока. | — | |
| | Усяго выкарыстана: 25 м. самастойна, 20 м. з настаўнікам. | — | 25 м. з настаўнікам, 20 м. самастойна. |

Урок пачаўся ў 9 гадзін 55 мін. Увайшоўшы ў клас, настаўнік прапанаваў вучням 4-га класа вынуць кніжкі для чытання па роднай мове і прачытаць ціха пра сябе на стар. 106 казку „Ленінская праўда“, а вучням другога класа—вынуць сшыткі для дамашніх работ па арыфметыцы. Вучні 4-га класа зараз-жа вынулі кніжку, адшукалі адпаведную старонку і пачалі моўчкі, пра сябе чытаць. У гэты час настаўнік заняўся праверкай выканання вучнямі дамашняга задання па арыфметыцы ў 2-ім класе, якое ён даваў ім у мінулы дзень на ўроку па арыфметыцы. У час праверкі выклікаў некалькі вучняў.

Настаўнік: Забела, чытай першы прыклад.

Вучаніца: 28+32 будзе 60.

Настаўнік: Ігнат, а ў цябе колькі атрымалася?

Вучань: Таксама 60.

Настаўнік: Сядай... Жэня, чытай трэці прыклад.

Вучаніца: 32+8+12=52.

Настаўнік: Дуня, які адказ у цябе?

Вучаніца: Таксама 52.

Настаўнік: У каго іншы адказ? Васіль, колькі ў цябе?

Вучань: Таксама 52.

Настаўнік: Правільна. Чытай, Васіль, 4-ы прыклад.

Гэтак праводзілася праверка самастойнай работы вучняў па дамашняму заданню да канца. Потым настаўнік прапанаваў вучням самастойна рашыць некалькі прыкладаў.

Настаўнік: Зараз, рэбяты, самастойна парашайце вось гэтыя прыклады (паварачвае другім бокам класную дошку, дзе запісана 10 прыкладаў на складанне ў межах 100). Калі парашаеце гэтыя прыклады, будзем рашаць вусныя задачкі. Прыклады рашайце ў сваіх сшытках па арыфметыцы для дамашніх работ. Рашайце ціха, кожны пра сябе.

Арганізаваўшы такім чынам самастойную работу вучняў II-га класа, настаўнік зварочваецца да вучняў IV класа.

Настаўнік: Усе паспелі прачытаць казку?

Вучні (некалькі галасоў): „Усе".

Настаўнік: Цяпер слухайце, як я буду чытаць, а вы сачыце па сваіх кніжках.

Настаўнік чытае павольна, выразна, з інтанацыяй усю казку цалкам. Прачытаўшы, запытвае вучняў, якія словы і выразы для іх незразумелы.

Вучань падымае руку.

Настаўнік: Чаго ты, Стась, не зразумеў?

Вучань: Чаму гэта рабочы ціхенька гаварыў пра Леніна?

Настаўнік: А таму, што баяўся, каб яго не падслухалі царскія жандары, бо яны маглі арыштаваць яго за гэта. (Кароткая пауза.)

Настаўнік: А астатняе, мусіць, усё зразумела?

Некалькі вучняў: „Зразумела ўсё".

Настаўнік: Цяпер зноў пачытайце гэтую казку і прыдумайце загалоўкі для кожнай галоўнай часткі казкі. Чытайце ціха, кожны пра сябе, каб не перашкаджаць ім (ківае галавой у бок другога класа). Калі вы падрыхтуецеся, будзем чытаць голасна гэтую казку.

У 10 гадзін 12 мін. настаўнік зварочваецца зноў да вучняў другога класа, а вучні IV класа спакойна чытаюць па кніжцы казку і складаюць загалоўкі.

Настаўнік (зварочваючыся да вучняў другога класа): Усе прыклады рашылі? Іван, ты колькі рашыў?

Вучань: Чатыры прыклады.

Настаўнік (падыходзіць да гэтага вучня, заглядвае ў яго сшытак, гаворыць): „Трэба лічбы прыгажэй пісаць. Вось глядзі, ці такое ў цябе 2 як на дошцы напісана". (Папраўляе ў сшытку вучня лічбы.)

Настаўнік: Пакладзіце ручкі на парты, будзем рашаць вусныя задачкі. (Прыкметна некаторае ажыўленне сярод вучняў II класа. Кароткая пауза.) Слухайце задачу:

„У нашым калгасе ў першы дзень накапалі 32 вазы бульбы, у другі дзень на 6 вазоў больш. Колькі бульбы накапалі за 2 дні“? (Пауза.) Паўтары, Маня, задачку.

Вучаніца паўтарае задачу.

Настаўнік: Сядай. (Кароткая пауза.) Дык колькі вазоў бульбы накапалі ў калгасе ў першы дзень? Скажы, Міхась.

Вучань: У першы дзень у нашым калгасе накапалі 32 вазы бульбы.

Настаўнік: Так, сядай. А што сказана ў задачы пра тое, колькі бульбы накапалі ў другі дзень?.. ну, Васіль.

Вучань: У другі дзень накапалі на 6 вазоў больш.

Настаўнік: Правільна. Што-ж трэба зрабіць, каб даведацца, колькі вазоў бульбы накапалі ў другі дзень? Скажы, Варка.

Вучаніца: Трэба да 23 прыкласці 6. (Большасць вучняў падняслі рукі.)

Настаўнік: Як ты сказала, да чаго прыкласці 6?

Вучаніца (папраўляючыся): Да 32... Я памылілася.

Настаўнік: Ну так. Сядай. Прыклаўшы 6 да 32, мы даведаемся, колькі вазоў бульбы накапалі ў другі дзень. А далей што? Скажы, Апанас.

Вучань: Трэба даведацца, колькі вазоў бульбы накапалі за 2 дні.

Настаўнік: Так, а як аб гэтым даведацца, нам скажа Ліда.

Вучаніца ўстае і маўчыць.

Настаўнік: Што ты маўчыш, мусіць, забыла? Падкажы ей, Васіль, а ты, Ліда, паслухай.

Вучань: Трэба да 32 прыкласці 38.

Настаўнік: А адкуль ты ўзяў 38?

Вучань: Я да 32 прыклаў 6, атрымаў 38.

Настаўнік: Што азначае 38?

Вучань: Гэта столькі вазоў бульбы накапалі ў другі дзень.

Настаўнік: Сядай. Паўтары, Ліда, што азначае 38.

Вучаніца: 38 азначае, што столькі вазоў бульбы накапалі ў другі дзень.

Настаўнік: Дык як, Ліда, даведацца, колькі вазоў бульбы накапалі за два дні?

Вучаніца: Трэба да 32 прыкласці 38.

Настаўнік: Сядай. (Да ўсіх вучняў.) Хутчэй рашайце. (Пауза. Частка вучняў падняла рукі.)

Настаўнік: Дуня, колькі ў цябе атрымалася?

Вучаніца: За два дні накапалі 70 вазоў бульбы.

Настаўнік: Сядай. А ў цябе, Міхась?

Вучань: У мяне таксама атрымалася 70.

Настаўнік: Сядай. Паўтары, Надзя, задачу і раскажы, як ты рашала.

Вучаніца паўтарае задачу і развязвае першае пытанне.

Настаўнік: Сядай. А што трэба даведацца далей?

Вучаніца: Трэба даведацца, колькі вазоў бульбы накапалі за 2 дні разам. Для гэтага трэба да 32 прыкласці 38, будзе—70.

Настаўнік: Раскажы, як ты складвала 32 і 38.

Вучаніца: Я склала спачатку 30 і 30, атрымалася 60; $2+8=10$; $60+10=70$.

Настаўнік: Сядай, Ліда. Валодзя, а ты як складваў?

Вучань: Я да 32 прыклаў 8, атрымаў 40; потым да 40 прыклаў 30, атрымаў 70.

Настаўнік: Правільна, сядай. Лепш складваць так, як складваў Валодзя, так хутчэй. (Кароткая пауза). Ну, давайце рашым яшчэ адну задачу. Слухайце ўважліва: „На пабудову калгаснага клуба прывезлі ў першы дзень 23 вазы цэглы, а ў другі дзень на 11 вазоў больш. Колькі вазоў цэглы прывезлі за 2 дні“?

Настаўнік паўтарыў умову задачы сам, а потым выклікаў вучня, які паўтарыў цалкам ўмову задачы.

Настаўнік (да ўсіх вучняў): Рашайце задачу самі. Пауза. (Настаўнік чакае, пакуль вучні развяжуць задачу). Хто рашыў? (Большая частка вучняў паднялі рукі.)

Настаўнік (выклікае вучаніцу, якая не падняла рукі). Зіна, паўтары задачу.

Вучаніца паўтарае задачу правільна.

Настаўнік: Што трэба даведацца спачатку?

Вучаніца: Колькі вазоў цэглы прывезлі ў другі дзень.

Настаўнік: Як аб гэтым можна даведацца?

Вучаніца: Трэба да 23 прыкласці 11, будзе 34.

Настаўнік: Так. А што трэба зрабіць далей, нам скажа Марыля.

Вучаніца: Трэба даведацца, колькі вазоў цэглы прывезлі за 2 дні разам.

Настаўнік: Правільна. Што-ж трэба зрабіць, каб аб гэтым даведацца?

Вучаніца: Трэба да 23 прыкласці 34, будзе 57.

Настаўнік: Добра. А цяпер адкрыйце задачнікі і самастойна развяжыце вось гэтыя задачы (паказвае 3 нумары задач). Рашайце ціха, кожны пра сябе. Рашэнне запішыце ў сшыткі, кожную задачу паасобку пад сваім нумарам. Рашайце.

Пасля гэтага настаўнік зварочваецца да вучняў IV-га класа.

Настаўнік: Вы, мусіць, добра навучыліся чытаць казку. Чытай, Валодзя.

Вучань (чытае): „Ленінская праўда“, народная казка...“ і далей да слоў: „прышлі браты да пана“. Чытае вучань добра, без памылак, але спяшаецца, і настаўнік заўважвае: „Чытай больш павольна, не спяшайся“.

Настаўнік спыніў вучня на слове „праўдачку“...

Настаўнік: Хопіць. Раскажы цяпер, аб чым ты прачытаў.

Вучань расказвае досыць добра і поўна.

Настаўнік (да класа): Як гэтую частку казкі можна каратка назваць, каб можна было запісаць?.. Які загаловак ей можна даць? Хто прыдумаў? Ну, Іван.

Вучань: „Як браты жылі ў вёсцы“.

Настаўнік: Добра. А можа хто інакш назваў-бы. (Некалькі вучняў паднялі рукі.) Ніна!

Вучаніца: „Чаму браты пайшлі шукаць праўду“.

Настаўнік: Таксама добра. Па-мойму, лепш так назваць. Ідзі і запішы гэта, Ніна, на дошцы.

Вучаніца выходзіць да дошкі і запісвае: „1. Чаму браты пайшлі шукаць праўду“.

Настаўнік: Далей будзе чытаць Надзя.

Вучаніца (чытае): „Прышлі браты да пана“...

Чытае вучаніца не спяшаючыся, з адпаведнай інтанацыяй.

На выразе: „але браты былі ўжо далёка“ настаўнік спыняе яе.

Настаўнік: Хопіць, раскажы пра тое, аб чым ты прачытала.

Вучаніца расказвае досыць добра.

Настаўнік: А гэту частку як можна назваць? Віця, скажы, як-бы ты азаглавіў гэтую частку казкі?

Вучань: „Як браты працавалі на пана“.

Настаўнік: Ці ж мы толькі пра гэта прачыталі ў гэтай частцы казкі? Сядай, падумай! (Пауза.) Можа хто інакш прыдумаў загаловак? (Падымаюцца некалькі рук.) Васіль, як па-твойму?

Вучань: „Як ашукалі братоў поп і пан“.

Настаўнік: Вось так лепш. Ідзі, Васіль, запішы.

Вучань выходзіць да дошкі і запісвае: „2. Як ашукалі братоў пан і поп“.

Настаўнік: Далей нам прачытае Міша.

Вучань чытае да слоў: „Ён праўду ведае“.

Настаўнік: Хопіць! Сядай. Пра тое, што прачытаў Міхась, раскажа Маня.

Вучаніца расказвае, але памылілася, сказаўшы: „Пайшлі браты на фабрыку“...

Настаўнік: Пачакай, як там сказана ў казцы: пайшлі браты ці можа пайшоў старэйшы брат?

Вучаніца (папраўляецца): А старэйшы брат быў няўступчывы—пайшоў далей шукаць праўды. Прышоў ён на вялікую фабрыку і т. д.

Настаўнік: Добра, сядай. (Да ўсіх вучняў.) Да наступнага раза ўсе падрыхтуйце добра чытаць і расказваць гэтую казку. Прыдумайце таксама, як мы рабілі ў класе, загалоўкі для паасобных частак гэтай казкі, запішыце сабе для памяці загалоўкі, каб хутчэй потым іх называць, калі будзем чытаць гэтую казку ў наступны раз. А зараз, пакуль яшчэ ёсць час, вы можаце рабіць гэтую работу да перапынку.

Потым настаўнік зварочваецца да вучняў другога класа, а вучні IV-га класа працягваюць самастойна працаваць над загалоўкамі.

Настаўнік (да вучняў другога класа). Усе задачы рашылі?

Вучні: Усе.

Настаўнік падыходзіць да некаторых вучняў, бярэ сшыткі і наскора праглядае некалькі работ.—К наступнаму разу вы дома парашаеце вось гэтыя прыклады па задачніку. (Паказвае ў задачніку старонку і нумары прыкладаў. У гэты час чуецца званок на перапынак.) А цяпер ідзіце на двор, пабегайце, пагуляйце.

## Метадычныя заўвагі

Гэты ўрок уяўляе з сябе найбольш складаны выпадак ў адначасовай рабоце настаўніка з двума класамі. Тут мы маем два розныя прадметы: арыфметыку ў 2-м класе і тлумачальнае чытанне па роднай мове ў 4-м класе. Абедзве тэмы патрабуюць ад настаўніка амаль бесперапыннага ўдзела і кіраўніцтва работай вучняў абодвух класаў. Ад настаўніка ў такіх выпадках патрабуецца вялікая пунктуальнасць у размеркаванні часу і дэтальная прадуманасць характару самастойнай работы вучняў у тым класе, які павінен працаваць самастойна. Ад таго, як арганізаваны гэтыя моманты, амаль цалкам будзе залежаць вынік работы.

Што ўяўляе з сябе вышэйапісаны ўрок у гэтым сэнсе? Настаўнік правёў урок нядрэнна і, мяркуючы па адказах вучняў, дабіўся пэўных ведаў ад вучняў як у другім класе па арыфметыцы, так і ў 4-м класе па развіццю мовы.

Другое, што з'яўляецца характэрным пры такіх выпадках работы,—гэта падрыхтаванасць класаў да самастойных

заняткаў: як ў 4-м, так і ў 2-м класе вучні працавалі арганізавана, сваёй работай не перашкаджалі другім вучням і мелі здавальняючыя вынікі ў сваёй рабоце.

У залежнасці ад характару матэрыялу настаўнікам быў дастаткова рацыянальна размяркован час свайго кіраўніцтва работай таго і другога класа, што надзвычайна важна пры адначасовай рабоце настаўніка з двума класамі. Як відаць з размеркавання часу (гл. пачатак урока), настаўнікам патрачана каля 20 мінут на кіраўніцтва работай другога класа і астатні час скарыстаны для кіраўніцтва работай 4-га класа. Заданне вучням на дом таксама было вызначана своечасова і ў зразумелай для вучняў форме.

Аднак было-б лепей, каб настаўнік размеркаваў свой час прысутнасці ў тым і другім класе так, каб яго кіраўніцтва работай вучняў было больш сканцэнтравана ў адным якім-небудзь класе.

Таксама было-б лепш, каб настаўнік на гэтым-жа ўроку аддаў больш увагі тлумачальнаму разбору той часткі казкі, якую вучні IV класа паспелі голасна прачытаць па выкліку настаўніка.

Тым не менш, і ў такім выглядзе ўрок у двухкамплектнай школе быў арганізаван і праведзен настаўнікам даволі ўдала: вучні увесь час працавалі арганізавана, выконвалі самастойныя заданні па ўказанню настаўніка і мелі станоўчыя вынікі ў рабоце. Настаўнік ўмела кіраваў работай, своечасова дапамагаў вучням, дзякуючы чаму і дысцыпліна вучняў на ўроку была на належнай вышыні. Асабліва гэта важна пры ўмовах адначасовых заняткаў настаўніка з двума класамі, калі вучням прыходзіцца многа займацца самастойна па заданню настаўніка, дзе пытанне свядомай дысцыпліны вучняў выступае на першы план.

Адмоўным трэба лічыць тое, што дзеці II кл. не заўсёды давалі поўны адказ.

---

# ЯК ПРАВОДЗІЦЬ РАБОТУ З ГАЗЕТАЙ У IV КЛАСЕ

(ЗАПЫТАННЕ НАСТАЎНІКА К., АЛБЯНСКАЯ ШКОЛА, ЖЛОБІНСКІ РАЁН)

Частковае знаёмства вучняў з дзіцячымі газетамі мае месца ўжо ў I і II класе. Настаўнік гэтых класаў чытае вучням маленькія артыкулы, апавяданні; у другім класе развучвае кароткія вершы. Такая работа з газетай праводзіцца эпізадычна.

Пачынаючы з 3-га класа, работа з газетай павінна насіць сістэматычны характар. Вучні 4-га класа могуць выпісваць і чытаць „Піонер Беларусі" і „Пионерскую правду". Настаўнік павінен навучыць вучняў чытаць газету, зацікавіць іх газетным матэрыялам і ўмела выкарыстоўваць яго ў мэтах палітычнага выхавання дзяцей.

Газета садзейнічае выхаванню ў вучняў цікавасці да палітычнага жыцця нашай краіны. Яна вучыць, як весці барацьбу супроць ворагаў народа—фашысцкіх агентаў, дыверсантаў, шкоднікаў, шпіёнаў, трацкісцка-бухарынскіх бандытаў. Газета знаёміць вучняў з гераічнай барацьбой працоўных капіталістычных краін супроць эксплаататараў, супроць фашысцкага прыгнёту. Праз газету вучні даведваюцца аб удзеле дзяцей у соцыялістычным будаўніцтве, аб гераічных подвігах нашых піонераў, якія выкрываюць шкоднікаў і дыверсантаў.

Вялікае значэнне мае газета ў справе падняцця агульнакультурнага ўзроўня вучняў, у развіцці іх кругавіду, абагачэнні новымі ведамі, развіцці мовы і мышлення. Сістэматычна правадзімая работа з газетай умацоўвае таксама навыкі самастойнай работы вучняў.

Усё гэта разам ўзятае сведчыць аб тым, якую вялікую роль можа адыграць газета ў вучэбна-выхаваўчай рабоце школы.

### Змест работы з газетай

Вучань, атрымаўшы газету, павінен перш за ўсё ў агульных рысах азнаёміцца з яе зместам. Гэта значыць, што ён

павінен сабе ўявіць, аб чым пішацца ў даным нумары газеты. Вучняў 4-га класа трэба азнаёміць з тым, як мантыруецца газета, якое значэнне мае сістэма загалоўкаў у газеце, азнаёміць з асноўнымі раздзеламі газеты.

Увага ўсёй нашай краіны была прыкавана да нядаўна адбыўшыхся выбараў у Вярхоўны Совет СССР. Па ўсёй краіне разгортвалася агітацыя за высунутых народам кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Совета. Піонерскія газеты знаёмілі з біяграфіямі нашых кандыдатаў, з гераічнымі эпізодамі іх жыцця і барацьбы супроць ворагаў працоўных. Нашы дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР—гэта лепшыя з лепшых прадстаўнікі вялікага совецкага народа. Першым дэпутатам увесь наш народ абраў любімага правадыра, настаўніка і друга ўсіх працоўных Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

Дэпутатамі Вярхоўнага Совета наш народ абраў бліжэйшых саратнікаў і вучняў вялікага Сталіна—т. т. Молатава, Кагановіча, Варашылава, Калініна, Жданава, Ежова і інш. членаў ЦК ВКП(б).

Дэпутаты ў Вярхоўны Совет—гэта лепшыя сыны нашага гераічнага рабочага класа і сялянства. Кожны з іх заваяваў давер'е народа сваёй беззаветнай адданасцю нашай соцыялістычнай радзіме і ленінскай комуністычнай партыі, сваёй рашучасцю і стойкасцю ў барацьбе з ворагамі народа, сваёй чэснай і гераічнай працай на карысць нашай радзімы.

Нашы вучні, безумоўна, павінны ведаць нашых правадыроў, лепшых людзей Совецкага Саюза. Газеты „Пионерская правда“ і „Піонер Беларусі“ павінны ім у гэтым дапамагчы. Настаўніку належыць выклікаць у дзяцей цікавасць к азнаямленню з біяграфіямі нашых лепшых людзей.

У піонерскіх газетах сістэматычна асвятляюцца ў даступнай для дзяцей форме пытанні міжнароднага становішча СССР, дасягненні нашай краіны ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва, важнейшыя пастановы партыі і ўрада. Асвятленне гэтых пытанняў мае вялікае значэнне ў сэнсе палітычнага выхавання вучняў. Настаўнік і важаты атрада павінны пытанні палітычнага жыцця зрабіць блізкімі і зразумелымі для нашых дзяцей.

Аднойчы важаты адной менскай школы звярнуўся да дзяцей з запытаннем аб тым, што адбываецца зараз у Кітаі. Дзеці задумаліся, адзін нерашуча адказаў:—„у Кітаі зараз адбываецца вайна“. „А хто з кім ваюе?—запытаўся важаты.—Дзе размешчаны галоўныя пазіцыі ваюючых бакоў?“ Некаторыя піонеры прабавалі нешта адказаць, але няўдала. Адзін прызнаўся, што ён, шчыра кажучы, не разу-

мее ў дастатковай меры таго, што адбываецца ў Кітаі. У піонерскіх газетах змяшчаюцца, па яго думцы, вельмі кароткія паведамленні аб гэтым. Важаты ўказаў піонерам, што кожны з іх павінен ведаць падзеі, якія адбываюцца ў нашай краіне і за граніцай.

На бліжэйшым зборы атрада важаты расказаў дзецям, як кітайскі народ змагаецца за сваю свабоду і незалежнасць, якой хочуць пазбавіць яго азвярэлыя японскія генералы. З вялікай цікавасцю быў праслухан расказ настаўніка і важатага аб падзеях у Кітаі. Тут-жа было вырашана наладжваць калектыўныя чыткі газет па звеннях, а раз у дэкаду практыкаваць для ўсяго атрада паліт. інфармацыі аб важнейшых падзеях у СССР і за граніцай.

З дапамогай настаўніка і важатага вучні выпускаюць штодзённа газету з выразак—„Чытай апошнія паведамленні". Апроч таго, пад кіраўніцтвам настаўніка складаюцца і штодзённа папаўняюцца 2 альбомы—„Кітай" і „Іспанія", куды змяшчаюцца найбольш цікавыя і важныя матэрыялы.

Усё гэта яшчэ больш паднімае цікавасць да палітычнага жыцця краіны і палітычную актыўнасць піонераў. Такая работа можа быць пасільна кожнаму атраду і любой школе.

У „Пионерской правде" і „Піонеры Беларусі" часта змяшчаюцца ўрыўкі з літаратурных твораў, а такія творы, як „Золотой ключик" А. Талстога і „Я сын трудового народа" Катаева, былі змешчаны цалкам. Часта ў піонерскіх газетах друкуюцца добрыя вершы і цікавыя апавяданні аб жыцці правадыроў комуністычнай партыі, аб выдатных вучоных, аб героях Совецкага Саюза.

З вялікай цікавасцю чытаюць дзеці апавяданні з серыі „Учись распознавать врага". З вучнямі 4-га класа гэтыя апавяданні мэтазгодна чытаць калектыўна ў пазакласны час, дапаўняючы іх належнымі тлумачэннямі. Нярэдка можна сустрэць у піонерскіх газетах паведамленні аб тым ці іншым гераічным подвігу піонера; такія паведамленні неабходна даводзіць да ведама ўсіх вучняў. Няхай яны на гераічных прыкладах сваіх таварышоў вучацца пільнасці, смеласці, знаходлівасці і адданасці сваёй соцыялістычнай радзіме.

Таксама мае вучэбна-выхаваўчае значэнне работа з рысункамі, змешчанымі ў піонерскай газеце. Праглядаючы апошнія, настаўнік выдзяляе рысункі, на якія трэба звярнуць увагу дзяцей. Іншы раз настаўніку прыдзецца даваць кароткія тлумачэнні да рысункаў і фотаздымкаў, каб зрабіць іх больш зразумелымі для дзяцей. Вучні часта складаюць альбомы з рысункаў, і тут павінен прыйсці на дапа-

могу настаўнік сваёй рэкамендацыяй адпаведных ілюстрацый для таго ці іншага альбома.

На апошніх старонках піонерскіх газет звычайна даюцца апісанні розных займальных гульняў, карыкатуры, шарады, рэбусы, загадкі і т. д. Тут многа матэрыялу для развіцця дзіцячай смякалкі і творчасці. У радзе выпадкаў дзеці затрудняюцца ў раскрыцці шарады і галаваломкі. Тут настаўнік і важаты павінны таксама дапамагчы рэбятам; яны могуць даць наводзячыя пытанні або падказаць напрамак ў рашэнні задачы, прывучаючы дзяцей да ўдумлівага разважання.

На апошняй старонцы таксама змяшчаюцца аб'явы аб выходзячых кнігах, аб навучальных дапаможніках, аб правядзенні таго ці іншага мерапрыемства для дзяцей. Настаўнік павінен сачыць за гэтымі аб'явамі з тым, каб своечасова звярнуць на іх увагу вучняў.

Такім чынам, змест работы з газетай уключае ў сябе наступныя пытанні:

а) тэхніку чытання;

б) вывучэнне і прапаганду Сталінскай Канстытуцыі і выбараў у Советы;

в) скарыстанне газет для палітычнай інфармацыі і вывучэння жыцця вялікіх людзей;

г) работу над мастацкімі творамі, змешчанымі ў газеце (апавяданні, вершы і т. д.);

д) папулярызацыю гераічных спраў саміх дзяцей;

е) работу над рысункамі газеты;

ж) работу над гумарыстычным аддзелам газеты па развіццю дзіцячай знаходлівасці і т. д.

з) Давядзенне да ведама вучняў важнейшых аб'яў у газеце.

## Формы работы з газетай

Работа з газетай працякае, галоўным чынам, у пазакласны час—у школе, на занятках звенняў, піонер-атрадаў і дома. Але было-б памылкай недаацэньваць скарыстанне газеты на ўроку, у працэсе вучэбна-выхаваўчай работы.

На самай справе. Прагледзьце нумары „Пионерской правды", скажам, з верасня па снежань 1937 г. Вы тут знойдзеце вельмі цікавы матэрыял аб гістарычным мінулым нашай радзімы, аб жыцці першабытнага чалавека, аб народах, насяляўшых нашу краіну ў далёкім мінулым, аб тым, як у 1380 г. рускае войска перамагло полчышчы Мамая—хана залатой арды. У піонерскіх газетах ёсць многа цікавага матэрыялу з гісторыі грамадзянскай вайны, аб бліскучых перамогах сталінскіх пяцігодак і т. д.

Хіба не можа настаўнік, выкладаючы гісторыю СССР у 4-м класе, выкарыстаць гэты цікавейшы матэрыял у вучэбна-выхаваўчых мэтах? Некаторыя матэрыялы настаўнік можа зачытваць на ўроку пры ізлажэнні новага матэрыялу, пры замацаванні пройдзенага і т. д. Іншыя-ж матэрыялы настаўнік можа рэкамендаваць вучням прачытаць дома ў парадку выканання хатніх заданняў.

Такую-ж работу можа правесці і выкладчык геаграфіі. У „Пионерской правде“ і „Піонеры Беларусі“ друкаваліся досыць цікавыя матэрыялы аб будаўніцтве Турксіба, аб палярнай зоне, аб жыцці на паўночным полюсе. У сувязі з апісаннем жыцця піонераў у „Артэку“ даваліся цікавыя малюнкі аб жыцці на паўднёвым беразе Крыма, аб гарыстых мясцовасцях СССР і інш. Настаўнік геаграфіі можа ўсё гэта скарыстаць у сваёй вучэбнай рабоце.

У піонерскіх газетах змяшчаліся артыкулы аб жыцці на морскім дне, аб розных жывёлах, раслінах ды інш. Настаўнік прыродазнаўства можа выкарыстаць гэтыя матэрыялы ў сваёй вучэбнай рабоце. Настаўнікі, выкладаючыя іншыя прадметы (літаратура і т. д.), знойдуць таксама ў піонерскіх газетах досыць карысны матэрыял для сябе.

Найбольш шырока распаўсюджанай формай работы з газетай з'яўляецца пазакласнае чытанне пад кіраўніцтвам настаўніка. Прывядзем канкрэтны прыклад.

17-га верасня ў школе ў час вялікага перапынка некалькі піонераў прачыталі ў „Пионерской правде“ апавяданні членаў экіпажа цеплахода „Тимирязев“, патопленага італьянскімі фашыстамі. Гэтыя піонеры звярнуліся к настаўніку за раз'ясненнем некаторых пытанняў. Бачачы вялікую цікавасць з боку вучняў да гэтай падзеі і жадаючы выкарыстаць гэтыя матэрыялы для азнаямлення з тераічнымі маракамі цеплахода „Тимирязев“, настаўнік прапанаваў усім жадаючым сабрацца пасля ўрокаў у школе.

Ва ўмоўлены час вучні гэтага класа сабраліся і прыступілі да чытання матэрыялаў аб патапленні італьянскімі бандытамі совецкага цеплахода „Тимирязев“ і выратаванні яго экіпажа. У працэсе чытання настаўнік растлумачыў такія незразумелыя словы, як „подзор“, „стальная обшивка“, „корма“ і т. д. Дзяцей вельмі цікавілі ўзаемаадносіны паміж членамі экіпажа: хто каму падпарадкуецца на караблі і т. д. З дапамогай карты настаўнік паказаў, куды накіроўваўся „Тимирязев“. Настаўнік падкрэсліў, што гэта было мірнае судна, якое везла вугаль і раптоўна падверглася нападу італьянскай падводнай лодкі.

Чытанне гэтага матэрыялу і тлумачэнні настаўніка пазнаёмілі дзяцей са зладзейскімі ўчынкамі фашысцкіх бандытаў,

якія ў сваіх злачынных правакацыйных мэтах не спыніліся перад пірацкім знішчэннем мірнага судна, належачага краіне Советаў. Дзеці праніклся глыбокай нянавісцю да фашысцкіх варвараў—падпальшчыкаў вайны і, разам з тым, вялікай павагай да тераічных маракоў, якія плывуць пад совецкім флагам. Яны са здавальненнем даведаліся з расказу настаўніка аб тым, што замест патопленага цеплахода наша краіна будуе дзесяткі новых выдатных суднаў. Настаўнік падкрэсліў, што совецкі ўрад прадпрыняў належныя меры, каб забяспечыць у далейшым безапаснасць совецкіх суднаў, знаходзячыхся ў іншаземных морах. Ён заклікаў дзяцей расці такімі-ж мужнымі, адважнымі людзьмі, якімі з'яўляюцца нашы піміразеўцы.

Чытанне і гутарка пакінулі ў дзяцей глыбокае ўражанне. Па прапанове аднаго піонера яны паслалі прывітальнае пісьмо капітану цеплахода „Тимирязев“. Настаўнік нямнога дапоўніў сваім расказам матэрыялы „Пионерской правды“, але здолеў аб'яднаць іх у адну цэласную карціну, раз'ясніць дзецям важныя пытанні і такім чынам дабіўся таго, што газетныя весткі дайшлі, як належыць, да свядомасці вучняў.

З такім жа поспехам настаўнік мог бы правесці чытанне іншых матэрыялаў, змешчаных у піонерскіх газетах: аб гераічных подвігах нашых пагранічнікаў, аб жыцці працоўных пры царызме, аб шчаслівым і радасным жыцці ў нас—у краіне соцыялізма.

Вялікае значэнне мае хатняе чытанне газет, якое трэба зрабіць штодзеннай патрэбнасцю вучняў. Трэба рэкамендаваць бацькам заахвочваць вучняў у чытанні піонерскіх газет, часцей гутарыць з імі аб прачытаным, раз'ясняць дзецям незразумелыя для іх выразы, пытанні і т. д.

Работа з газетамі „Пионерской правдой“ і „Піонерам Беларусі“ павінна садзейнічаць развіццю дзеткораўскага руху ў школе і падняццю якасці насценных газет, асабліва па лініі культуры слова, літаратурнасці стыля, чоткага афармлення, умелага скарыстання матэрыялаў і прапаноў, змяшчаемых у піонерскім друку. Вось характэрны прыклад такога скарыстання газетнага матэрыялу.

У „Пионерскай правде“ ад 10 верасня быў надрукован артыкул „К нам приехал дядя“. У гэтым артыкуле расказваецца, якую шкоду наносяць сабе вучні, што спазняюцца на ўрокі, як дзеці, спазняючыся, выдумваюць часам ў сваё апраўданне самыя рознастайныя матывы.

Важаты атрада, як паведамлялася ў газеце, рашыў праверыць, наколькі рэбята праўдзівы ў сваіх тлумачэннях прычын спазнення. Па праверцы было ўстаноўлена, што ў многіх спа-

зняючыхся ніякіх уважлівых прычын для апраўдання няма. Газета заклікала рэбят спыніць спазненні ў школу, даказваючы, што той, хто спазняецца, зрывае вучобу сабе і іншым.

Па атрыманні гэтага нумара „Пионерской правды" важаты атрада адной з менскіх школ сабраў рэдкалегію насценнай газеты 4-га класа і прачытаў з ёй указаны артыкул. Па прапанове важатага рэдкалегія падлічыла, колькі дзяцей спазнілася за апошні месяц і колькі страчана імі вучэбнага часу. Таксама запісалі ўсе матывы спазненняў, праверка якіх выкрыла вучняў, гаварыўшых няпраўду.

На гэты раз класная газета вышла даволі „зубастай". Вучні па некалькі разоў прачытвалі некаторыя заметкі, прычым віноўнікі спазненняў адчувалі сябе зусім няёмка. Газета зрабіла сваю справу, і спазненні рэзка скараціліся. Яна дабілася і таго, што вучні ўжо не выдумляюць матываў сваіх спазненняў, а гавораць праўду, абяцаючы ўпярод не пазніцца. Так падхапіла насценгазета 4-га класа прапанову „Пионерскай правды" і аказала на дзяцей станоўчы выхаваўчы ўплыў.

У другой школе насценгазета па прыкладу „Пионерской правды" паказала, як хто з вучняў рыхтуе хатнія заданні. Газета вельмі трапна „прабрала" тых, якія не рыхтуюць самастойна ўрокаў і спісваюць чужыя работы ў класе. Некаторыя з дзяцей прызналіся праз газету, што яны не рыхтуюць хатніх заданняў пасля таго, як іх настаўнік выклікаў, бо да наступнага выкліку яшчэ многа часу.

Матэрыялы ў насценнай газеце аб выкананні хатніх заданняў павысілі пачуццё адказнасці ў вучняў і аказалі станоўчы ўплыў на настаўніка; ён пачаў часцей правяраць хатнія сшыткі і рабіць апытванні вучняў на ўроку. Насценгазета, такім чынам, памагла падняць якасць вучобы ў гэтым класе. Такія прыклады гавораць аб тым, што школьная насценгазета павінна быстра рэагаваць на пытанні, якія ўзнімаюцца ў „Пионерской правде" і „Піонеры Беларусі", умела скарыстоўваць прапановы гэтых газет у даных канкрэтных умовах.

У „Пионерской правде" і „Піонеры Беларусі" даюцца крытычныя агляды школьных насценных газет. Рэдкалегія кожнай газеты павінна абавязкова ўлічыць указанні гэтых аглядаў з тым, каб перамагчы свае недахопы, зрабіць газету больш культурнай, вострай і т. д.

Нарэшце адзначым, што вучні 4-га класа не павінны абмяжоўвацца чытаннем сваіх дзіцячых газет. Рад матэрыялаў, змяшчаемых у цэнтральных і раённых газетах, могуць таксама быць даступнымі для іх, і абавязак настаўніка і важатага—найбольш цікавыя матэрыялы з друку рэкамендаваць вучням.

У радзе месцаў практыкуецца і такая форма работы, як калектыўнае абгаварэнне ў класе і піянератрадзе ўздымаемых газетай пытанняў. У „Пионерскай правде“ і „Піонеры Беларусі“ друкаваліся артыкулы і водгукі піянераў аб праявах смеласці дзяцей, аб чэсным слове піянераў, аб паводзінах дома і на вуліцы, аб адносінах да малодшых дзяцей, аб вучобе і т. д. Па ўсіх гэтых пытаннях можна падабраць у газетах адпаведны матэрыял для абгаварэння.

Перыядычна настаўнік можа з вучнямі афармляць вітрыны, прысвечаныя таму ці іншаму пытанню, карыстаючыся газетнымі і журнальнымі выразкамі.

У адной з віцебскіх школ мы бачылі газетную вітрыну, прысвечаную 15-годдзю вызвалення Владзівастока ад японскіх акупантаў. У карыдоры былі выстаўлены 2 вялікія шчыты. На адным з іх былі падабраны выразкі з малюнкамі, карыкатурамі і тэкстамі аб тым, што ўяўляў сабой Владзівасток 15 год назад, пад пятой японскіх захватчыкаў. Там паказваецца, як японскія акупанты ператваралі ў руіны гарады і вёскі нашага далёкага Усходу, як у глухой тайзе рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі стварылі партызанскія атрады. Асабліва ярка быў адлюстраван бой на станцыі Валачаеўка (фотаздымкі, вытрымкі з успамінаў байцоў, вершы і песні, прысвечаныя валачаўескім баям). У заключэнне вітрына паказвала прыезд на Далёкі Усход аднаго з лепшых палкаводцаў Чырвонай Арміі, цяпер маршала Савецкага саюза т. Блюхера, і вызваленне Владзівастока ад інтэрвентаў.

Другі шчыт адлюстроўваў дасягненні соцыялістычнага будаўніцтва на Далёкім Усходзе. Тут былі фотаздымкі нашых заводаў—гігантаў, якія выраслі за гады савецкай улады ў Далёка-Усходнім краі, новыя сталінскія школы, гарады-новабудоўлі і т. д. Прадстаўлена Асобая Чырвонасцяжная Далёка-Усходняя армія, якая стаіць на варце багаццяў шчаслівага края, на варце мірнай працы.

Такія-ж вітрыны могуць быць арганізаваны і па іншых тэмах, напрыклад: „Барацьба іспанскага народа з мяцежнікамі—інтэрвентамі“, „Кітайскі народ супроць японскіх захватчыкаў—акупантаў“ і т. д. Каштоўнасць такіх вітрын заключаецца ў наглядным асвятленні пры дапамозе газетных і журнальных матэрыялаў важных палітычных пытанняў у даступнай для вучняў форме. Яны каштоўны таксама і таму, што паглыбляюць цікавасць да палітычнага жыцця, абагачаюць веды дзяцей, расшыраюць іх кругавід, стымулююць да больш глыбокага знаёмства з тымі ці іншымі падзеямі.

Можна практыкаваць стварэнне альбомаў з газетных матэрыялаў. Пры дапамозе настаўніка вучні могуць наклейваць пад адпаведнымі загалоўкамі выразкі з газет, прысвечаныя жыццю і дзейнасці нашых правадыроў, рэвалюцыйным падзеям у Іспаніі і т. д.

Мы спыніліся ў даным артыкуле толькі на асноўных формах работы з газетай, а іменна:

а) скарыстанне газетнага матэрыялу ў вучэбных мэтах;

б) пазакласнае чытанне газет пад кіраўніцтвам настаўніка;

в) хатняе чытанне вучнямі газет;

г) скарыстанне піонерскага друку для палепшання школьных насценгазет і развіцця дзеткораўскага руху;

д) калектыўнае абгаварэнне газетных матэрыялаў і прапаноў;

е) скарыстанне выразак з газет і журналаў для афармлення альбомаў і вітрын.

Указаныя мерапрыемствы па рабоце з газетай безумоўна створаць у дзяцей любоў да сваіх газет і падымуць роль апошніх у справе ідэйна-палітычнага і культурнага ўзроўня вучняў.

*Навуковы работнік НДІ*
*Школьнай Педагогікі Мітліна.*

---

## Агляд пісьмаў

Навукова-Даследчы Інстытут Школьнай Педагогікі, праводзячы пісьмовую кансультацыю настаўнікаў па пытаннях комуністычнага выхавання і методыкі выкладання розных школьных дысцыплін, звязан перапіскай са школамі ўсіх раёнаў БССР. Сотні пісьмаў атрымлівае Інстытут і рассылае настаўнікам адказы па пытаннях комуністычнага выхавання і выкладання—мовы, літаратуры, гісторыі, канстытуцыі, матэматыкі, фізікі, прыродазнаўства, хіміі і іншых прадметаў.

Аналізуючы характар задаваемых пытанняў, трэба адзначыць, што пытанні часта ставяцца шырока, расплыўчата. Напрыклад, ставяцца пытанні ў такой форме: „Укажыце методыку выкладання беларускай і рускай мовы ў 5—7 класах“ або „Прашу даць тлумачэнне па методыцы выкладання мовы і літаратуры“. Некаторыя настаўнікі звяртаюцца ў Інстытут з просьбай прыслаць ім гатовыя планы вучэбна-выхаваўчай работы школы, гатовыя планы завуча, не улічваючы, што гэтыя планы могуць быць складзены толькі на аснове поўнага ведання канкрэтных умоў работы данай школы.

На такія пытанні, пастаўленыя вельмі агульна, даць здавальняючы адказ цяжка. Методыка выкладання такіх прадметаў, як мова і літаратура, уключае ў сябе вялікую колькасць праблем: пытанні методыкі чытання і пісьма, пытанні культуры вуснай і пісьмовай мовы, пытанні аналіза мастацкіх твораў у класе і вывучэння паэтыкі, пытанні ўліку і планіравання работы па мове і літаратуры і т. д. Кожная такая праблема мае рад асобных пытанняў, аб якіх можна гаварыць толькі канкрэтна, і толькі ў такім выпадку настаўнік можа атрымаць патрэбны яму адказ.

Але не гледзячы на тое, што некаторыя паступаючыя ў Інстытут пісьмы настаўнікаў не заўсёды маюць правільна сфармуляваныя пытанні, усё-ж гэтыя пісьмы ясна гавораць аб тым, што настаўніцтва кроўна зацікаўлена ў падняцці якасці вучобы на вышэйшую ступень, што яно імкнецца

ліквідаваць другагодніцтва, забяспечыць уздым граматнасці вучняў, дабіцца засваення імі асноў навук і выхавання ў комуністычным духу.

Кабінет Кансультацыі настаўнікаў пры НДІ Школьнай Педагогікі просіць настаўнікаў БССР падтрымліваць цесную сувязь з Інстытутам не толькі пісьмовымі зваротамі за кансультацыямі, але і шляхам апісання свайго вопыта работы, а таксама абмеркавання змешчаных адказаў у нашым друкаваным зборніку.

Кансультацыйны Кабінет пры
НДІ Школьнай Педагогікі.

---

# ЗМЕСТ



---

